ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

1 САКАВІКА 1996 г. № 9 (3833) Кошт 2 500 руб.



## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Паважаныя чытачы, 10 сакавіка заканчваецца падпіска на "ЛіМ" на другі квартал 1996 года. Калі вы ў свой час не падпісаліся на наш тыднёвік на ўсё першае паўгоддзе, то стаць чытачом "ЛіМа" яшчэ не позна і цяпер.*

**Кошт падпіскі ранейшы: на адзін месяц — 6 тысяч рублёў, на тры месяцы — 18 тысяч.**

**Наш індэкс — 63856.**



# ГЭТЫ ЮНЫ "ПАЛАНЕЗ"...

Адмысловая нізка фартэпіянных твораў Міхала Клеафаса Агінскага ў аркестроўцы Вячаслава Кузняцова сталася асновай арыгінальнага спектакля "Паланез". Аўтар ідэі — дырэктар аб'яднання "Беларуская Капэла" кампазітар Яўген Паплаўскі, балетмайстар-пастаноўшчык Галіна Сінельнікава, выканаўцы — Камерны аркестр ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Перліна ды навучэнцы харэаграфічнага каледжа. "Паланез" — частка музычна-харэаграфічнай імпрэзы, з якой на працягу гэтага тыдня знаёміліся гледачы розных гарадоў Польшчы. Рамантычны, прыгожы спектакль, упершыню паказаны падчас фестывалю, наладжанага "Беларускай Капэлай" да 230-годдзя нашага выдатнага земляка М. Кл. Агінскага, увайшоў у праграму пагаднення, заключанага паміж Міністэрствам культуры Беларусі ды Міністэрствам культуры і мастацтва Польшчы. Напярэдадні вандроўкі па ініцыятыве Польскага інстытута ў Мінску быў наладжаны грамадскі прагляд спектакля "Паланез". Юныя артысты выступалі на сцэне Рускага тэатра... Сёння, 1 сакавіка, завяршаецца іх гастрольная вандроўка па гарадах Польшчы.

**С. Б.**





*Імгненні "Паланеза" - на здымках Віт. АМІНАВА*

***Важнейшая падзея мінулага тыдня, безумоўна, афіцыйны візіт прэзідэнта Беларусі ў Маскву. Вынікі яго пакуль падводзіць рана, падзівімся толькі, як дарэчы аказалася прэзідэнцкай камандзе, напачатку прынятая "ў штыкі", прапанова П. Краўчанкі аб выплаце Масквой кампенсацыі за выведзеныя з тэрыторыі Беларусі ядзерныя боегалоўкі. Між іншым, кошт іх значна большы за нашыя даўгі. А таму ўжо сёння можна сказаць, што "нулявы варыянт", у такім варыянце, больш выгадны Маскве, чым Беларусі. Бо прыгадаем яшчэ "знятую" кампенсацыю за Чарнобыль, плату за транзіт ды інш. Расія сваім не паступіцца, вядома. Але нашаму прэзідэнту патрэбны быў прыгожы жэст, прапагандысцкі ход, праўду пра які дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі не скажуць, а голас недзяржаўнага друку і апазіцыйных палітыкаў мала хто пачуе...***

## РАДА ТЫДНЯ

Не столькі напярэдадні візіту ў Маскву, колькі напярэдадні мажлівага страйку прэзідэнт Беларусі сустрэўся з прадстаўнікамі працоўных калектываў сталіцы. Уласна рабочых, з-за шэрагаў знаёмых па іншых пасяджэннях твараў міністраў, іх намеснікаў, чыноўнікаў выканкамаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў і г.д., амаль не відаць было ў зале. І не дзіўна, бо сустрэча адбылася "не в подворотне", а там, "где никто чужой не бывает..." А. Лукашэнка прасіў рабочых данесці да сваіх калектываў яго прапанову: не страйкаваць, а пачакаць вяртання прэзідэнта з Масквы, і тады, калі будзе патрэба, ён сам, пад любым, хоць пад бел-чырвона-белым, хоць пад чырвона-зялёным сцягам выйдзе на плошчу і разам з імі памітынгуе... Паколькі прэзідэнт паабяцаў выканаць амаль усе патрабаванні ініцыятараў мітынгу, правядзенне яго вырашана адкласці.

## ФАКТ ТЫДНЯ

Улады В'етнама распачалі кампанію з засіллем у краіне рэкламы на замежных мовах. У Ханоі заклеены ўсе шыльды з надпісамі на англійскай мове — рэклама фірм "Кока-Кола", "Соні" ды іншых. Тым, хто парушыць забарону, пагражае штраф у 5 тысяч долараў. З падобнай прапановай звярнуліся ў Вярхоўны Савет Беларусі прадстаўнікі славянарусафільскага Беларускага патрыятычнага руху. Беларускія рускія патрыёты патрабуюць паскорыць працу над Законам аб рэкламе і пратэстуюць супраць "огромного количества огромных по размеру слов на иностранном языке", бо бачаць небяспеку ў тым, "что улицы белорусской столицы начинают напоминать колониальные страны времен раннего капитализма". Што праўда, то праўда. Калі ўлічыць, што і руская мова для нас — замежная. Але, мяркуючы па мове ліста ў парламент, для гэтых "патрыётаў" замежнай мовай на Беларусі з'яўляецца беларуская...

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Законы рыхтуюцца для людзей дзеяздольных і тых, што валодаюць прававодй свядомасцю. Калі каму-небудзь незразумела, што на медыцынскай мове дурні называюцца алігафрэнамі з падраздзяленнем на дэбілаў, імбецылаў і ідыётаў, я мяркую, што дакладна гэтаксама кожнаму юрысту зразумела, што такія асобы ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам недзеяздольныя і па рашэнні суда прызнаюцца часткова дзеяздольнымі, абмежавана дзеяздольнымі альбо цалкам недзеяздольнымі. Закон ёсць закон. І калі закон не выконваецца, то замест улады закона надыходзіць улада сілы. А сіла закона падмяняецца законам сілы. Прэзідэнт, растаптаўшы Канстытуцыю, цудоўна засвоіў механізм другога закона, які называецца цемрай улады, уладай цемры альбо законам сілы. (...) А ў той дзяржаве, дзе закон падменены сілай, дзейнічаюць правілы зладзейскай брыгады. Аўтарытэт сказаў — усе астатнія безумоўна выканалі. І я, несучы адказнасць за свае словы, заяўляю, што ў нас склалася цяпер у краіне магілёўска-шклоўская кланавая родавая брыгада".

*(З выступлення народнага дэпутата В. Ганчара на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі 22 лютага г.г.)*

## ВЫНАХОДСТВА ТЫДНЯ

Начальнік пашпартнага стала Цэнтральнага РАУС г. Магілёва прапанаваў у абласной газеце распачаць продаж пашпартоў з гербам "Пагоня" калекцыянерам і іншым "аматарам палітычнай экзотыкі", каб хоць нейкім чынам кампенсаваць народу "сотні тысяч долараў, што былі выкінуты на вецер". Вось вам і яшчэ адзін штрых да вынікаў рэферэндуму, але, як кажуць у тым жа народзе, "калі прапіў на гарэлцы, дык на запалках не зэканоміш".

## СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Як паведаміла "Народная газета", органы ўнутраных спраў Беларусі раскрылі таямніцу загадкавага знікнення паўгода назад старшыні Белмедбанка У. Валадзько: банкір быў забіты яго знаёмымі... Злачынцы затрыманы (праўда, пакуль не усе), следства працягваецца. Гэта практычна першая гучная справа ў краіне, якая раскрыта і вінаватыя будуць пакараны. Па іншых падобных справах — забойстве гродзенскага мэра Д. Арцымені, забойстве банкіра А. Ліснічука — следства практычна зайшло ў тупік.

## РАСПРАВА ТЫДНЯ

Калі шмат хто з нашых суайчыннікаў ужо забыўся альбо не ведае, што такое дыктатура і дыктатар, то падзеі ў Багдадзе, якія ўскалыхнулі ўвесь свет, нагадалі пра тое. Прэзідэнт Ірака Садам Хусейн спачатку дараваў сваім двум зяцям здраду і ўцёкі з краіны, а калі яны — амнiставаныя — вярнуліся дамоў, загадаў іх забіць. Замежныя каментатары называюць розныя версіі і прычыны гэткага "даравання ўсіх грахоў", але факт ёсць факт: там, дзе кіруе "бацька нацыі", дзейнічае адзін закон — сілы. У гэтым святле надта цікавым падаецца інтэрв'ю-расповяд лідэра ЛДПБ С. Гайдукевіча пра нядаўні візіт у Ірак ("Народная газета", 28 лютага) і наогул кантакты Мінска з Багдадам. Іракскі народ, вядома, шкада, але час ужо і пра сябе падумаць...

## ВЫНІКІ ТЫДНЯ

На мінулым тыдні, у перадад'езнай мітусні і пад пагрозай абвальных страйкаў, прэзідэнт Беларусі шмат разоў сустракаўся з народам, выступаў па тэлебачанні, даваў інтэрв'ю, і, як заўсёды, шмат гаварыў без папярэдняй падрыхтоўкі альбо адрываючыся ад тэкстаў дакладаў: як гэта прынята цяпер называць — шчыра. У сваіх выступленнях прэзідэнт не раз прыводзіў "кампрамат" супраць многіх вядомых асоб на палітычным Алімпе Беларусі, прычым, як гэта апошнім часам бывае, гаварыў рэзка, доказы "віны" адкладваючы на потым. Сярод тых, на каго скіраваў свой гнеў прэзідэнт, — народныя дэпутаты В. Ганчар і С. Багданкевіч, Г. Карпенка і С. Шушкевіч, А. Бухвостаў і В. Кебіч, М. Грыб і С. Калякін... ды і амаль увесь Вярхоўны Савет на чале з С. Шарэцкім, які паступова становіцца ледзь не ворагам N 1. Тым самым, можна сцвярджаць, прэзідэнт сам стварыў сабе адкрытую апазіцыю і спаліў за сабою ўсе масты да мажлівага "кансенсусу"...

З нагоды

# НАШАМУ КАЛГАСУ СПІСАЛІ ДАЎГІ...

Напярэдадні свайго візіту ў белакаменную ў шэрагу заяў сп. Лукашэнка падкрэсліваў, што гэта "першы афіцыйны візіт першага ўсенароднаабранага прэзідэнта Беларусі ў Маскву". А паколькі "першы" ды яшчэ "ўпершыню", дык гэтая акалічнасць, на думку сп. прэзідэнта, аўтаматычна робіць падзею надзвычайнай, выключнай, лёсавызначальнай.

На самай жа справе...

У Маскве падпісаны дакументы, адзін з якіх, нібыта, падводзіць рысу пад узаемнымі грашовымі прэтэнзіямі Беларусі і Расіі. "З гэтага моманту ніхто нікому нічога не вінен", — так пракаментаваў гэта сп. Ельцын. Прыняты "нулявы варыянт", па якім Расія скасоўвае нашы задоўжанасці па энерганосьбітах, а Беларусь адмаўляецца ад фінансавых прэтэнзій за перададзеныя Расіі ядзерныя ракеты. Акрамя таго, Беларусь заплюшчвае вочы на экалагічную небяспеку ад прысутнасці ў нашай краіне чужога войска. Можа, у гэтай сітуацыі трэба радавацца, бо доўг "Газпрому" сапраўды велізарны. Але я прыгадваю, што такі "нулявы варыянт" ужо быў у беларуска-расійскіх стасунках. Расія тады, здаецца, узяла на сябе беларускую частку агульнасаюзнага доўгу замежным краінам, а Беларусь у адказ адмовілася ад сваёй долі агульнасаюзнага залатога запасу і агульнасаюзнай маёмасці за мяжою. Задумана было нібыта па справядлівасці, а выйграла... Расія. Думаю, што і зараз Расія сябе не пакрыўдзіла...

Ідэя "нулявога варыянта" напярэдадні візіту падавалася прапагандай, як узор дзяржаўнай мудрасці прэзідэнта РБ, як праява новага падыходу ў стасунках з усходнім суседам, як прыклад братэрскага паразумення. Мяркую, што гэта не зусім так. Аналагі такой палітыкі няцяжка знайсці ў нядаўнім мінулым. Усе мы памятаем, як неперспектыўным калгасам (а за выключэннем некалькіх "узорных", усе калгасы былі неперспектыўныя) перыядычна скасоўвалі даўгі і ў чарговы, "апошні", раз давалі дзяржаўную пазыку.

Нешта падобнае адбылося цяпер і на міждзяржаўным узроўні, і таму ці ёсць асаблівыя падставы адчуваць вялікую радасць. Наўрад ці гэта вырашае нашы праблемы, праз пэўны час наш "беларускі калгас" будзе зноў "в долгах, как в шелках", і зноў на міждзяржаўным узроўні паўстане пытанне пра "нулявы варыянт". Трэба не даўгі скасоўваць, а "калгас" рэфармаваць.

"Першы візіт першага прэзідэнта" гістарычнай падзеяй, бадай, не стаў. Але адна акалічнасць была ў ім сапраўды ўпершыню. Упершыню Беларусь (у асобе прэзідэнта) вымушана была з Расіяй, так бы мовіць, таргавацца. Яшчэ ўчора сцвярджалася, што "нам без Расіі не пражыць", — а сёння ўжо ўспомнілі, што і Расія нам сёе-тое вінна. Паступіліся, так бы мовіць, прынцыпамі, прад'явілі Маскве рахунак.

А куды дзенешся? Жыццё прымусіць грошы лічыць.

**П. В.**

# ПАДУМАЦЬ АБ БУДУЧЫМ

Раніцай у сераду, якраз напярэдадні з'яўлення ў Маскве прэзідэнта А. Лукашэнкі ў якасці афіцыйнага госця, па канале "Грамадскае расійскае тэлебачанне" пракруцілі сумнавядомы фільм Ю. Азаронка "Нянавісць: дзеці хлусні". Кіраўніцтва ГРТ не магло не ведаць, што пасля выхаду фільма на беларускі тэлеэкран рэжысёр атрымаў "ва ўзнагароду" апляруху ад падпалкоўніка М. Статкевіча і судовы працэс. У цывілізаваным свеце пасля гэтага рэжысёр накшталт Азаронка быў бы вымушаны змяніць прафесію, а ў нас ён робіць далейшую кар'еру.

Ведаючы, як "Грамадскае расійскае тэлебачанне" даражыць сваім прэстыжам, сваім іміджам незаангажаванага аб'ектыўнага інфарматара, можна толькі здагадвацца, колькі заплаціў гэтай тэлекампаніі за з'яўленне бруднай агіткі (так і хочацца напісаць "агідкі") на "Першым канале". Плаціў, зразумела, той, каму гэта патрэбна і хто мае на гэта грошы.

Прэстыж сп. А. Лукашэнкі ў Расіі не надта высокі. Расійская палітычная эліта не лічыць яго там за асобу, вартую ўвагі і павагі. Маўляў, нікуды ён ад Расіі не падзенецца...

У жніўні мінулага года расійская газета "Литературные вести", разважаючы аб перспектывах "інтэграцыі" Беларусі ў склад Расійскай Федэрацыі, пісала: "Наш (расійскі. — **П. В.**) бок ідзе на далейшае збліжэнне з цяжкім, у цэлым, пачуццём з-за прадбачаных эканамічных выдаткаў: тут і нерэфармаванне, сацыялістычнае абліччa гаспадарчай сістэмы, якую нам прапанаваў "родить обратно" і разгойдванне дзяржбюджэта РФ, які і так кульгае на абедзве нагі, і небяспечныя "чорныя дзіркі" рухнуўшых мытных бар'ераў, і шмат чаго іншага..." Далей ідзе гаворка пра тое, што "калі ж Беларусі і сапраўды наканавана стаць федэратыўным утварэннем у складзе Расіі", дык у асобе Лукашэнкі будзе яшчэ адзін губернатар ў дадатак да "нашых губернатараў і рэспубліканскіх прэзідэнтаў з іх кішэннымі заканадачымі сходамі, як бы яны ні называліся".

Мабыць, зусім не на гэта спадзяецца сп. Лукашэнка, гаворачы пра "інтэграцыю з Расіяй"...

Мабыць, фільм Ю. Азаронка, прадэманстраваны па расійскім тэлебачанні, павінен паказаць расійцам, што калі яны перастануць падтрымліваць Лукашэнку, да улады ў Беларусі прыйдуць нацыяналісты (для іх Азаронак не шкадуе чорнай фарбы), а з імі так проста не дамовішся. Створанае ў фільме негатыўнае аблічча апанентаў рэжыму павінна, акрамя ўсяго, і апраўдаць у вачах расійскай публікі гвалтоўныя метады кіравання, уласцівыя прэзідэнту РБ. Бо ва ўсіх на памяці рэпрэсіі супраць парламенцкай апазіцыі і парламента ўвогуле, супраць забастоўшчыкаў і свабоднай прэсы.

Але ў дадзеным выпадку сп. Лукашэнка рызыкуе атрымаць зусім не тую рэакцыю, на якую разлічвае. Калісьці, недзе напярэдадні скону СССР, кіраўніцтва КПБ любіла дэманстраваць Маскве, як яно (ЦК КПБ) "кантралюе сітуацыю" ў Беларусі. Гэта, маўляў, у Прыбалтыцы магчыма што заўгодна, а мы тут уладу трымаем моцна. Але дастаткова было паказаць у інфармацыйным выпуску Цэнтральнага тэлебачання недзе троххвілінны рэпартаж пра сутычку дэманстрантаў і міліцыі ля помніка Леніну ў Мінску 7 лістапада 1990 года, як і следу не засталося ад міфа пра законапаслухмяны народ Беларусі і моцную камуністычную ўладу ў БССР.

Пра што гаворыць фільм Азаронка, калі з яго выкрасліць закадравы голас Гасцюхіна з яго "каментарыямі"? А гаворыць фільм пра тое, што ў Беларусі ёсць апазіцыя прэзідэнту Лукашэнку. Ёсць людзі (і іх немала), якія ніколі не прымуць ні сённяшняй сімволікі, ні палітыкі. Той, хто мае вочы, бачыў: пад бел-чырвона-белымі сцягамі стаіць моладзь — заўтрашнія выбаршчыкі.

Мабыць, гэтую акалічнасць трэба браць да ўвагі тым палітыкам, якія плануюць доўгатэрміновыя стасункі Расіі і Беларусі.

Сярод маіх знаёмых няма ніводнага, каму было б усё роўна, што пра іх думаюць іншыя людзі, у прыватнасці — суседзі. Мабыць, няма народаў, якія былі б абыякавымі да вобраза, які яны маюць у вачах іншых народаў.

Мяркуючы па тым, як расійскія сродкі масавай інфармацыі "раскручваюць" тэму беларуска-расійскіх стасункаў, падкрэсліваючы іх "братэрскі" характар, расійцам не хапае станоўчых эмоцый. Расійцам вельмі хочацца, каб іх нехта любіў, у той час як свет Расію проста цярпіць.

Калісьці пры слове "Расія" ў мяне перад вачыма паўставаў відэашэраг — Маскоўскі крэмль, Наўгародская Сафія, "Адміралцейская игла"; прыгадваліся залы Траццякоўкі і Рускага музея, радкі вялікіх паэтаў.

Потым стала неяк не да культуры, моцна абвастрылася "дружба народаў", іншымі сталі і асацыятыўныя вобразы: Ельцын на вежы танка, бронетэхніка на вуліцах Масквы, дым з вокан "Белага дома", зруйнаваны бамбардзіроўкамі Грозны. Я, шчыра кажучы, не ведаю, якая з гэтых двух Расій — сапраўдная: тая, якую памятаю, альбо тая, якую бачу па тэлевізары... Але апошнім часам і першую і другую Расію ўсё часцей падмяняе трэцяя. Цяпер, калі я чую слова "Расія", я міжволі бачу перад вачыма... нашага прэзідэнта А. Лукашэнку з яго вечнай песняй пра "інтэграцыю".

Я такі не адзін. А гэта значыць, што ў выніку псіхалагічнай звязкі "Лукашэнка — гэта Расія", імідж Расіі ў Беларусі ўжо да нейкай ступені залежыць ад папулярнасці А. Лукашэнкі. А папулярнасць яго ўжо наўрад ці будзе такой, як у час прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, — пік пройдзены.

Дык, можа, варта расійцам, калі яны дбаюць аб прывабным вобразе сваёй краіны, падумаць аб будучым...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# У СУВЯЗІ З ЮБІЛЕЕМ ААН

Як вядома, нядаўна споўнілася 50 год Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Гэта дата была шырока адзначана ў свеце. Не застаўся ўбаку ад знамянальнай падзеі і Саюз беларускіх пісьменнікаў. У Доме літаратара прайшла вечарына, гасцямі прысутных на якой былі літаратары, якія ў розны час прымалі ўдзел у рабоце Генеральных Асамблей ААН. Былыя дэлегаты — паэты Генадзь Бураўкін (а ён, як вядома, яшчэ быў і прадстаўніком Беларусі пры ААН), Анатоль Вярцінскі, празаікі Янчаслаў Адамчык, Віктар Казько падзяліліся сваімі ўражаннямі, расказалі нямала цікавых выпадкаў, у тым ліку прывялі і факты, якія раней не абнародаваліся. Знайшлося месца і мастацкім творам. А яшчэ з поспехам выступіў вядомы гурт "Ліцвіны", гучалі народныя песні ў выкананні Т. Ліхадзіеўскай, якой акампаніраваў В. Купрыяненка.

Пошта

# ПАТРЭБНА БЕЛАРУСІ І ЯЕ НАРОДУ

Часта чуем нядобрыя словы ў адрас сучасных прадпрымальнікаў, камерсантаў, гандляроў. Маўляў, усе яны аднолькавыя, усе ледзь не грабежнікі, абдзіралы, прайдзісветы і г. д.

А ці трэба, ці можна ахайваць толькі за тое, што яны займаюцца камерцыйнай дзейнасцю і зарабляюць, падкрэсліваю, зарабляюць, а не крадуць добрую капейку? Зразумела, ёсць сярод іх махляры, нават злачынцы. Але я — не пра іх. Я пра тых, хто дапамагае нам выжыць і нешта робіць на карысць усёй Бацькаўшчыны.

У нашым Іўі, напрыклад, кажуць: "Магазін Пашкевіча". Гэтая прыватная крама ўзнікла ў Іўі ў ліку першых і адразу прыцягнула ўвагу пакупнікоў. Чым? Культурай абслугоўвання перш за ўсё, стараннем прадаўцоў задаволіць патрэбы пакупнікоў, асартыментам тых тавараў, на якія найбольшы попыт, і памяркоўнымі цэнамі, ніжэйшымі за дзяржаўныя. Аднак заслуга гаспадара крамы не толькі ў гэтым. У. Пашкевіч знайшоў магчымасць і палічыў патрэбным дапамагчы Іўеўскай праваслаўнай царкве, набыў для новага храма дыванову дарожку. Гэта значыць, зрабіў падарунак усім праваслаўным вернікам. Хіба гэта не міласэрнасць, не учынак, варты сардэчнай падзякі?

Шчырае, сардэчнае пісьмо-зварот У. Пашкевіча да дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь было надрукавана ў "Іўеўскім краі" 24 студзеня пад назвай "Прабач, Максім, Айчыну сваю", у якім аўтар дзеліцца сваімі ўражаннямі ад наведвання магілы Максіма Багдановіча ў Ялце. Сэрца сціскаецца ад болю, крыўды і сораму, бо Максіма ведае амаль увесь свет, а на Радзіме, на Бацькаўшчыне, не знойдуць часу і сродкаў, каб дастойна ўшанаваць яго памяць. Тым больш, што магіла знаходзіцца на чужыне, а не ў родным краі.

"...сціплая, занадта сціплая, магілка з неафарбаванай агароджай, старым абадраным помнікам. Такія магілы можна сустрэць на вясковых закінутых пагостах", — так апісаў сваё ўражанне ад наведвання магілы М. Багдановіча наш зямляк. Праз раённую газету У. Пашкевіч звярнуўся да нашага дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мікалая Дуніча, каб ён гэтае пытанне ўзняў перад Міністэрствам культуры ці Прэзідэнтам краіны. "Няўжо так цяжка ўстанавіць сапраўдны, значны помнік з прыгожым надпісам, з добрай агароджай?" — пытаецца аўтар ліста і дадае: "Калі ў Міністэрстве культуры ці ўрада не знойдзецца сродкаў, можна было б зрабіць гэта сіламі раёна. Думаю, што нашы прадпрымальнікі не адмовяцца ўнесці ўклад у збор сродкаў. Я асабіста гатовы зрабіць гэта хоць сёння".

Далей У. Пашкевіч адзначае, што ўсё гэта патрэбна не яму ці камунебудзь іншаму, а патрэбна "...Беларусі і яе народу, калі хочам мы людзьмі звацца".

Трэба верыць, што пісьмо-запыт іўеўскага прадпрымальніка не застанецца па-за ўвагай урада (для гэтага і пішу ў газету і спадзяюся, што мой допіс убачыць свет) і дасць свой плён: магіла нашага паэта-земляка будзе прыведзена ў выгляд, дастойны імені вялікага сына беларускага народа. У горшым выпадку — хоць за сродкі не надта багатых прадпрымальнікаў з Іўеўшчыны, калі настолькі ўжо збяднела дзяржаўная казна. Але ж ці толькі апусцела казна? Мо і яшчэ што?

**Іван ГОВАР,**
**педагог Іўеўскай**
**спецшколы-інтэрната**

# КІТАЙ ДАЛЁКІ, КІТАЙ БЛІЗКІ

Сёння ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі завяршаецца Тыдзень культуры Кітая, які быў арганізаваны сумесна з пасольствам Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Мінску. Гэтае свята прысвячалася 4-годдзю ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і КНР і было прымеркавана да свята Новага года, што адзначаецца цяпер у Кітаі па месячным календары.

Афіцыйна Тыдзень увабраў у сябе мерапрыемствы, што праходзілі з 19 па 23 лютага, але пачатак яму быў пакладзены яшчэ ў мінулую пятніцу, калі ў памяшканні Таварыства прайшла ўрачыстая вечарына, у якой прынялі ўдзел дыпламатычныя работнікі, члены таварыства "Беларусь—Кітай", журналісты, пісьменнікі, кітайскія студэнты, якія навучаюцца ў Мінску.

Лепш зразумець, чым жыве Кітай, даведацца пра багатую культуру гэтай далёкай і разам з тым блізкай краіны, паколькі беларуска-кітайскія сувязі маюць даўнія традыцыі, можна было, пазнаёміўшыся з выстаўкай кітайскіх кніг, вырабаў дэкаратыўнаўжытковага мастацтва, а таксама з фотавыстаўкай. На працягу двух дзён — 20 і 21 лютага — праводзіўся паказ дакументальных фільмаў "Свята вясны Кітая". "Старадаўняя кітайская архітэктура" і іншых.

# ДА НАС ЕДЗЕ МАНТСЭРАТ?

У гэта пакуль не верыцца... Сусветная оперная прымадонна — на сцэне Вялікага тэатра Беларусі? Аднак падрыхтоўка да яе прыёму ўжо вядзецца. Нядаўна ў тэатры была наладжана прэс-канферэнцыя з удзелам прэзідэнта музычнага цэнтра "Класіка" Уладзіслава Цацэрына, які займаецца візітам Мантсэрат Кабалье ў нашу краіну. Цэнтр "Класіка" — у Расіі, але клопат ягонага прэзідэнта пра музычнае жыццё на Беларусі невыпадковы. Уладзіслаў Цацэрын узгадаваны ў Мінску, у Рэспубліканскім ліцэі пры Акадэміі музыкі. Піяніст-канцэртант, ён паванджраваў у свой час па свеце і ўрэшце вырашыў заняцца справай, якую, напэўна, можна вызначыць як музычны менеджмент. Мае намер уключыць у ліст гарадоў, праз якія будуць пралягаць гастрольныя маршруты славутасцяў, і родны Мінск. Спадар Цацэрын перакананы, што калі нашу сталіцу наведае сама Кабалье, гэта будзе лепшай рэкамендацыяй краіне і адразу ж забяспечыць давер да яе іншых сусветных "зорак".

Такім, чынам, першы і пакуль адзіны канцэрт Мантсэрат Кабальне мае адбыцца ў ДАВТе 7 сакавіка. Праграма — камерная: на сустрэчырэпетыцыі з аркестрам (галоўны дырыжор якога, маэстра Анісімаў, акурат год таму выступаў разам з ёю ў Маскве) часу няма. Спявачка прыедзе са сваім канцэртмайстрам Мануэлем Бургерасам. Наступным пасля канцэрта днём БТ маркуе паказаць яго запіс. Пра тое ж, як патрапіць на "жывую" Мантсэрат і колькі будзе каштаваць самы танны білет, — лепей не задумвацца...

**Н. К.**

# ВЫЖЫВАЦЬ — РАЗАМ!

***Паўтара стагоддзя назад, калі ў Расіі стварыўся Літаратурны фонд, яго першаступеннай задачай значылася дапамога "бедствующим" літаратарам. З той пары нямала вады збегла, але да нядаўняга часу задачы Літфонду мала чым адрозніваліся ад той, што была сфармулявана яго заснавальнікамі. Да звычайнай дапамогі далучылася хіба выдзяленне пуцёвак у дамы творчасці, дачных участкаў, кватэр і г. д. А цяпер? "Няма таго, што раньш было"... Зноў з Літфондам звязана найперш дапамога, каб неяк звязаць канцы з канцамі збяднелым пісьменнікам. Хоць — якую дапамогу ў наш цяжкі, скрушны і ў многім непрадказальны час можа ён сёння аказаць? Беллітфонду гэта рабіць усё цяжэй і цяжэй.***

Рэч, зразумела, не ў тым, каб зноў азірацца на Маскву, а ў тым, што без наладжвання сувязей наўрад ці можна і надалей карыстацца дамамі творчасці, санаторыямі, якія некалі належалі колішняму Саюзу пісьменнікаў СССР. Не будзем забываць і таго, што некалі менавіта праз Маскву штогод не адзін дзесятак кніг беларускіх пісьменнікаў, выходзячы ў перакладзе на рускую мову ў выдавецтвах "Советский писатель", "Художественная литература", "Молодая гвардия", ішлі не толькі да рускамоўнага чытача ў саюзных рэспубліках, а і атрымлівалі магчымасць быць перакладзены з рускай у цяперашнім так званым далёкім замежжы. Адным словам, праблемы і праблемы. Трэба неяк каардынаваць дзейнасць літфондаў, што працуюць цяпер у колішніх саюзных рэспубліках зусім самастойна...

Пра ўсё гэта вялася гаворка ў час "круглага стала", праведзенага Беллітфондам сумесна з Міжнародным літаратурным фондам, які прайшоў не так даўно ў Доме літаратара. "Круглы стол" стаў лагічным завяршэннем семінара прадстаўнікоў Міжнароднага літаратурнага фонду, які на працягу двух дзён праводзіўся ў Доме творчасці "Іслач".

Як падкрэсліў у час выступлення на пасяджэнні генеральны дырэктар МЛФ Р. Гюлумян, такі выязны семінар праводзіўся ўпершыню, і Беларусь для наладжвання кантактаў была выбрана невыпадкова. Упершыню шырока і плённа былі абмеркаваны не толькі праваыя, гаспадарчыя, а і творчыя пытанні ўзаемнай дзейнасці. Прыняты і канкрэтныя захады. У прыватнасці, устанаўліваецца 12 штогадовых стыпендый, што будуць давацца тым літаратарам, якія працуюць на ніве ўзаемаўзбагачэння братніх літаратур. У кастрычніку ў Алма-Аце мяркуецца правесці семінар перакладчыкаў. У бліжэйшы час плануецца склікаць камісію па творчых сувязях, зноў жа з удзелам прадстаўнікоў тых дзяржаў, літаратурныя фонды якіх увайшлі ў МЛФ (не ўвайшлі Літва і Эстонія). У апошні час да яго далучылася і Латвія, прадстаўнік якой вядомы пісьменнік, пасол Латвіі ў Расійскай Федэрацыі Яніс Петэрс прымаў удзел у рабоце семінара, але, на жаль, не змог прысутнічаць на "круглым стале".

Хоць пасяджэнне было строга рэгламентаваным у часе (госці спяшаліся на маскоўскі цягнік), гаворка атрымалася змястоўнай, ахапіла самыя розныя праблемы, што тычацца не толькі аднаўлення колішніх сувязей паміж літаратурамі, а і паглыблення іх з улікам новых палітычных і іншых рэалій.

Актыўнасць праявілі і госці, і гаспадары. Сваімі меркаваннямі па праблемах, што патрабуюць хуткага вырашэння, падзяліліся У.Паўлаў, А. Жалязоўскі, Н. Кандакова (Расія), І. Шамякін, В.Зуёнак, В. Рагойша, І. Чарота, Ю.Сураўцаў (Расія), І. Шклярэўскі (Расія), М. Шаўчэнка (Украіна), Н. Гілевіч, А. Абдуманнонаў (Таджыкістан), старшыня Расійскага літаратурнага фонду В. Кабенка...

Ніхто не сумняваецца: звароту да таго, што было ў рабоце Літфонду СССР, няма і не можа быць. Аднак нельга не прымаць пад увагу таго, што ці не ва ўсіх літфондаў суверэнных дзяржаў ёсць жаданне працягваць колішнія сувязі і кантакты. Праўда, на новай аснове. І тут як бы ключавой фігурай становіцца перакладчык. А яшчэ нельга дапусціць таго, што адбылося ў Расіі. Там, як вядома, Саюз пісьменнікаў, а адпаведна і Літфонд, пачалі дзяліцца. Драбленне працягваецца, узнікаюць усё новыя і новыя творчыя суполкі, што, безумоўна, не можа ісці на карысць агульнай справе, на карысць літаратуры.

Як засведчыў Ю. Сураўцаў, да ўсяго сёння адчуваецца яшчэ і інфармацыйны голад адносна таго, што робіцца ў суседніх літаратурах, невядома якія кнігі выходзяць у суверэнных дзяржавах. "Литературная газета" гэтымі пытаннямі цікавіцца мала, сяды-тады да іх звяртаюцца "Независимая газета" і газета "Сегодня". Мо гэтую інфарматарскую ролю возьме на сябе "Вестник Литфонда", які пачаў ужо выходзіць?

Слушнай прагучала прапанова І. Шклярэўскага аб стварэнні міжнароднага дзяржаўнага выдавецтва, якое змагло б згуртаваць колішнія братнія літаратуры. Але гэта ўжо залежыць ці не ў першую чаргу ад кіраўніцтва дзяржаў СНД.

Намеры — добрыя. Наколькі яны рэальныя, пакажа час.

**Н. К.**

Варункі

# ПРА ЧАЧНЮ

*За вас праўда, за вас слава*
*І воля святая!*
Т. ШАЎЧЭНКА
(з паэмы "Каўказ")

**Калі я быў малы, я любіў слухаць, як маці распавядала пра тое, як немцы палілі іхнюю вёску.**

**Спачатку летам была аблава. Але паліцыянт з суседняй вёскі, дзе стаяў гарнізон, падказаў. І вёска паспела схавацца — хто ў хмызняк, а хто ў жыта. Прыехалі немцы, пастралялі хворых і нямоглых, хто не змог ці не захацеў хавацца, і вырашылі, на ўсялякі выпадак, прачасаць жыта.**

**Бабуля Соня з чатырма дзецьмі, а было ёй тады трыццаць гадоў, сядзела ў хмызняку. З ёй таксама былі старэйшыя дзеці малодшай сястры Аляксандры. Аляксандра ж з самым меншым немаўлём ляжала ў жыце разам з іншымі бабамі і дзецьмі. Немцы ішлі, гергаталі, зрэдку пастрэльвалі, і тут заплакаў гэты Аляксандрын Віця. "Прыдушы!" — загадалі ёй старэйшыя аднавяскоўкі.**

**Яна не адважылася, а папаўзла з ім падалей ад людзей, у бок да немцаў. Калі тыя наблізіліся, дзіця замоўкла і выратавала сябе і маці.**

**Што яна, мая стрыечная бабуля Аляксандра, якой было тады 25, перажыла тады?**

**Бліжэй пад восень немцы канчаткова вырашылі знішчыць вёску, але зноў нехта са сваіх паліцаяў падказаў, і людзі зноў на ноч паўсхопліваліся з ложкаў ды палацяў і паўцякалі. Баба Соня зноў ляжала з дзецьмі ў хмызняку і глядзела, як немцы падпальваюць хату за хатай. Маці распавядала, што ішоў дождж. Яна, 9-гадовае дзяўчо, у адной кашульцы ляжала ў брудзе і дрыжэла ад холаду. Мокрыя хаты не хацелі гарэць і немцы расстрэльвалі іх запальнымі кулямі. Наша хата нарабіла грукату. Яна ўзрывалася і трасіруючыя кулі ад яе разляталіся ў розныя бакі. Дзед-партызан хаваў у ёй свае боепрыпасы.**

**Што думала тады мая бабуля, цяжарная пятым дзіцем і з чатырма на руках, ведаючы, што муж нічым не здолее ёй дапамагчы, што суседнія вёскі гараць з людзьмі, што наперадзе зіма?**

**Гэта можна толькі ўявіць. Але пасля таго, як пачалася вайна ў Чачні, як расійскія войскі змялі Грозны, знішчылі з людзьмі Сямашкі і разбамбілі ці не адзін дзесятак чачэнскіх аулаў з жанчынамі і дзецьмі, пасля таго, як я ўбачыў каменныя твары чачэнскіх "баевікоў", я дакладна ведаю, што думаў тады, у 43-м, мой дзед.**

**Як ні дзіўна, але ў нас, беларусаў, шмат паралеляў з гэтым малым, далёкім чачэнскім народам. У дачыненні да беларусаў у апошнюю вайну акупанты праводзілі планамерны генацыд. Немцы патрабавалі поўнага падпарадкавання, інакш — смерць. Калі пачалі паліць вёскі і забіваць, ціхмяны і рахманы беларускі народ "азвярэў" і масава пайшоў у лясы, бараніцца.**

**Сёння ў Чачні робіцца тое, што ў нас рабілася пяцьдзесят гадоў таму. Расійскія войскі зараз ужываюць такую ж тактыку "выпаленай зямлі" і наводзяць такі ж, толькі што ўжо "канстытуцыйны" парадак.**

**І таму, калі я чую па расійскіх сродках інфармацыі тэрмін "баевікі", я аўтаматычна, у галаве перапраўляю — партызаны, і ў мяне адразу цяплее на душы.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

ЛіМ
ЧАСАПІС



# "КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ"

Міжнародная асацыяцыя беларусістаў і рэдакцыя часопіса "Тыдзень" сталі заснавальнікамі і выдаўцамі інфармацыйна-аналітычнага бюлетэня "Кантакты і дыялогі", пробны нумар якога нядаўна прыйшоў да чытача. Як сказана ў звароце рэдакцыі, "мы спадзяёмся, што гэтае выданне зойме сваю, пакуль што вольную дзялянку. Яно будзе прысвечана грамадска-культурнаму ўзаемадзеянню Беларусі з іншымі краінамі і народамі — найперш суседнімі, але таксама ўсёй Еўропы і ўсяго свету. Работнікі сродкаў масавай інфармацыі, дыпламаты, вучоныя, дзеячы літаратуры і мастацтва, усе, хто цікавіцца міжнацыянальным, міжрэлігійным і міжкультурным дыялогам, знойдуць у бюлетэні побач з праблемнымі, аналітычнымі артыкуламі беларускіх і зарубежных аўтараў, таксама дайджэсты, складзеныя па матэрыялах бягучай прэсы, таксама пастаянныя рубрыкі "Беларусь вачыма замежных вучоных", "Прысутнасць беларускай культуры ў свеце, старонкі будучага слоўніка", "Вернута на Радзіму", "Дыялогі і маналогі, запісаныя для сучаснікаў і нашчадкаў", "Духоўныя кантакты", "Хроніка Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў", "Прапануюць дзелавыя людзі", "Рукапіс шукае выдаўца" і інш."

Уяўленне аб бюлетэні можна атрымаць па пробным нумары. Змешчаны артыкулы М. Піліпенкі "Беларуская традыцыйная культура як феномен еўрапейскай цывілізацыі", Ю. Сураўцава (Масква) "Знешнепалітычныя зносіны Беларусі і Расіі як прадмет культуралагічнай цікавасці", Р. Піўтарака (Кіеў) "Вытокі беларускай мовы: новая канцэпцыя. Да праблемы "Беларусь паміж Украінай і Расіяй", Р. Курода (Токіо) "Беларусь вачыма японцаў, спроба гістарычнага агляду", А. Лапінскене (Вільня) "Беларусістыка ў Літве". Тут жа апублікаваны старонкі з будучага энцыклапедычнага даведніка "Беларусы ў свеце", ёсць "Хроніка беларусазнаўчага жыцця", падборка "Па старонках друку (дайджэст)".

А на чацвёртай старонцы вокладкі паведамленне, якое, думаецца, зацікавіць многіх: "У Маскве прайшоў трэці выпуск "Генеалогіі Беларусі", прысвечаны асобам кіруючых дынастый XIX—XX стст. Аўтарам яго, як і папярэдніх выпускаў, з'яўляецца вядомы спецыяліст па генеалогіі акадэмік Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі доктар тэхнічных навук прафесар Андрэй Мікалаевіч Нарбут, які цяпер узначальвае Маскоўскую рэгіянальную асацыяцыю беларусістаў". Тут жа паведамляецца, як заказаць гэтае выданне.

## ПРЫСУТНАСЦЬ ЯНКІ КУПАЛЫ



**У двух гарадах Латвіі — у Даўгаўпілсе і Рызе — створаны першасныя суполкі Міжнароднага фонду імя Янкі Купалы. Са спадчынай класіка нашай літаратуры тут знаёмы даўно. У 20-30-я гады драматычныя дружыны Люцынскай і Дзвінскай беларускіх дзяржаўных гімназій аб'ездзілі ўвесь Латгальскі край з пастаноўкамі "Паўлінкі", "Раскіданага гнязда". Пра генія беларускай нацыі пісалі "Голас Беларуса", "Беларуская школа ў Латвіі", яго творы перакладаліся на латышскую мову.**



**Рыгу Янка Купала наведаў у 1941 годзе. А падружыўся ён з Райнісам яшчэ ў 1926 годзе ў Мінску. Аўтографы Купалы і сёння захоўваюцца ў архівах і музеях Латвіі. Прысутнасць беларускай культуры, прысутнасць Купалы на латышскім мацерыку — асаблівы клопат даследчыкаў латышска-беларускіх узаемасувязей. Паспрыяе гэтаму і ажыццяўленне творчых планаў першасных суполак Міжнароднага фонду імя Янкі Купалы. Адну з іх узначальвае Мікола Паўловіч, сябар беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" у Даўгаўпілсе. У Рызе калектыўным сябрам суполкі стала Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны "Прамень", якую ўзначальвае Алесь Карповіч.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

*Янка Купала і Яніс Ніедрэ ў Сігулдзе. Чэрвень 1941 г.*

*Надзея Мікалаева-Камісар, выпускніца Даўгаўпілскай беларускай дзяржаўнай гімназіі ў ролі Паўлінкі.*

## У ДОБРЫ ШЛЯХ, ФІЛІЯ!

**Адным з першых дзяржаўных крокаў новага міністра культуры А. Сасноўскага стаў загад, падпісаны ім 27 лютага аб адкрыцці на базе Мазырскага музычнага вучылішча філіі факультэта завочнага навучання Беларускага універсітэта культуры.**

**А гэта азначае, што цяпер падрыхтоўка спецыялістаў культуры вышэйшай кваліфікацыі перастала быць прэрагатывай сталіцы, а перанеслася і на перыферыю.**

**Чакаецца, што гэты акт паспрыяе развіццю культуры унікальнага Палескага рэгіёна.**

**Уладзімір МАМОНЬКА,
галоўны спецыяліст
Міністэрства культуры**

Выставы

## "ІНШАЯ" ГЕРМАНІЯ

***Заканчэнне сезона і пачатак новага года былі адзначаны ў мастацкай галерэі "Шостая лінія" фотавыставай з Германіі "Акты стану". Мінскія гледачы мелі магчымасць пазнаёміцца з жыццём і побытам Германіі 50—80-х гадоў, адлюстраванымі ў своеасаблівым фоталетапісе, дзякуючы прадстаўніцтву Інстытута Гётэ ў нашай краіне.***

Гэта не першая экспазіцыя з Германіі. У Мінску ўжо былі прадстаўлены рэтраспектывы графікі і скульптуры, але толькі з ФРГ. Між тым як вартае ўвагі і вывучэння мастацтва было і ў сацыялістычнай ГДР. Магло скласціся ўражанне, што ігнараванне ўсходнегерманскіх культурных набыткаў гэта ў аб'яднанай Германіі — афіцыйная палітыка.

Выстава, пра якую ідзе гаворка, сведчыць пра адваротнае. Бо на ёй прадстаўлены фотамайстры як Захаду, так і Усходу, на ёй адлюстравана жыццё і ў ФРГ, і ў ГДР.

Асабіста я ўспрыняў экспазіцыю выставы, як фотахроніку паступовага збліжэння дзвюх частак раз'яднанай краіны, як хроніку працэсу, які завяршыўся на нашых вачах пашырэннем ФРГ на Усход, ператварэннем ГДР у "новыя федэральныя землі". Нельга сказаць, каб у гэтай справе ўсё праходзіла гладка. Незадаволеныя тым, што адбылося па законах гістарычнай непазбежнасці, ёсць па абодва бакі ўжо неіснуючай "сцяны". І на Захадзе, дзе падаткаплацельшчыкі вымушаны несці на сваіх плячах дадатковы цяжар дзеля капіталістычнай перабудовы ў "новых землях". І на Усходзе, дзе адбываецца ў літаральным сэнсе рэвалюцыйная ломка звыклага ладу жыцця.

На здымках 50—60-х гадоў, нават без тлумачальных подпісаў, бачна, дзе Захад, а дзе Усход. Розны лад жыцця фарміруе ў людзей рознае аблічча. Я ўжо не кажу пра "сацыялістычныя" і "капіталістычныя" краявіды...

У 70—80-я ўжо нельга ўпэўнена сказаць, дзе на здымку ўсходні немец, а дзе заходні, за выключэннем тых выпадкаў, калі адлюстравана нешта акрэслена заходняе і немагчымае ў ГДР, альбо наадварот — яскрава ГДРаўскае. Скажам, тыпова ГДРаўская рэаліі у серыі "Помнік" Сібілы Бергеман, альбо выразна заходнія "Людзі вышэйшага свету" Херлінды Кёльбль. Дарэчы, апошняя серыя мяне вельмі ўразіла тым найперш, што гэта людзі, якіх у нас, у нашай краіне ўвогуле няма. Апошніх арыстакратаў адстралялі ў 30-я гады, а тыя, хто выжыў, дзеля ўласнай бяспекі прыкінуліся пралетарыямі, ды ў пралетарыяў ператварыліся. Х. Кёльбль паказвае жыццё вышэйшага свету, як тэатральную дзею, дзе кожны ведае сваю ролю, і нават калі "расслабляецца", дык толькі ў межах этыкету. Гэтаму варта было б павучыцца нашым палітыкам "ад сахі" і "ад станка".

Другая серыя, што запомнілася мне, — "Партрэты 1975—1977" Вільмара Кёніга. Усе партрэты маюць амаль аднолькавую кампазіцыйную пабудову. Партрэт у інтэр'еры: дзве сцяны, канапа альбо фатэль, чалавек — гаспадар кватэры. Інтэр'ер настолькі выразна характарызуе гаспадара, што, здаецца, ён у кадры ўжо і непатрэбны. Ён ужо "намаляваны" гэтымі сценамі, дыванам, карцінамі альбо фотаздымкамі на сценах, мэбляй, кніжнай паліцай...

Цікава, што пасля таго, як у ГДР у 80-х гадах аслабілі лейцы "сацыялістычнага рэалізму", мастацтва, у тым ліку і фотамастацтва, вярнулася да традыцыйнай эстэтыкі нямецкага экспрэсіянізму. Развіццё гэтага напрамку калісьці было гвалтоўна спынена гітлераўскім нацыянал-сацыялізмам; не мог адрадзіцца экспрэсіянізм і ва ўмовах сацыялізму сталінскага кшталту. Гундула Шэльцэ (серыі "Дрэздэн" і "Берлін") і Маціас Хох (серыя "Вакзалы") выклікаюць у памяці нешта бачанае ў палотнах Ота Дікса і іншых карыфеяў германскага мастацтва між дзвюма сусветнымі войнамі. Я не думаю, што гэта свядомы пошук гістарычных паралеляў, хутчэй — падсвядомае жаданне выказацца, гучна крыкнуць пасля працяглага вымушанага маўчання. А пасля гэтага можна заняцца і філасофскімі роздумамі...

На выставе я пабачыў невядомую мне Германію, адрозную ад той, чый вобраз ствараўся на старонках часопісаў "DDR" і "Guten Tag". І гэтая "іншая" Германія падаецца мне зразумелай і блізкай.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

## МЕЦЭНАЦТВА НА БЕЛАРУСІ...



**Ці існавала яно раней? Ці ёсць яно зараз? Хто яны — беларускія фундатары? Адказ на гэтыя і іншыя пытанні, звязаныя з дабрачыннай дзейнасцю прыватных асоб, фірмаў і арганізацый, пачулі тыя, хто завітаў на вечарыну ў "Беларускую хатку" 6 лютага.**

**Аказваецца, што мецэнацтва на Беларусі існуе ад часоў Скарыны і сёння мае ўжо пэўныя традыцыі. Пасутнасці, за спіной амаль кожнага паэта пачатку XX стагоддзя стаяў добры анёл-фундатар, які ў цяжкую гадзіну дапамог выжыць творцу або фізічна, выплачваючы стыпендыю ці пенсію, або духоўна, фінансуючы выданне ягоных кніг. Для М. Багдановіча такім анёлам была М. Радзівіл, для Максіма Танка — В. Труцька...**

**У наш час прадпрымальнік з Гародні — В. Дубатоўк дапамог духоўнаму уваскрасенню Л. Геніюш, уклаўшы свае сродкі ў выданне факсіміле зборніка паэткі "Ад родных ніў..." Згадваліся на вечарыне і назвы вядомых у рэспубліцы сваёй дабрачыннасцю фірмаў: "Дайнова", "Сотвар", "Пушэ" і інш.**

**Аб "фінансавым прыгоне" для існавання свайго гурта з горыччу гаварыў і кіраўнік "Ліцвіноў" У. Бербераў.**

**Калі дзяржава перастае апекавацца свайго духоўнага патэнцыялу, генафонду народнага таленту, знаходзяцца людзі, якія працягваюць руку дапамогі — паэтам, мастакам, артыстам. Іначай і быць не павінна. І, дзякуй Богу, што так ёсць.**

**А. КУЛІН**

*Выступае У. Бербераў.*

Фота С. ЛОЙКІ

## "ТЭАТРАЛЬНАЯ ТВОРЧАСЦЬ", N 1

**Нумар адкрываецца п'есай Р. Баравіковай "Пятля часу" — жаданне аўтара разабрацца над няпростымі рэаліямі сённяшняга дня, "Усё змяшалася, перавярнулася і выпісана адным словам "выжыванне"! Незразумела, адкуль узяліся багатыя, калі ўсё так доўга было агульным, ніяк не ўцяміць, чаму так хутка і так нізка ўпалі норавы, штосьці парушылася ў грамадстве, нібыта выбілі зямлю з-пад ног і яно дзесьці завісла: ні зямлі, ні неба. Можа, гэта і ёсць тая самая Пятля часу? Напэўна, гэтак... Але ў кожнага яна свая і кожны па-свойму шукае выйсце, як з яе вырвацца".**

**Як вядома, нядаўна адзначыў сваё 75-годдзе тэатр імя Я. Купалы. Да тых урачыстых, па-сапраўднаму святочных дзён вяртаюць матэрыялы В. Грыбайлы "Да новых поспехаў, браты", Р. Смольскага "Купалаўцы ў прасторы сусветнай культуры XX стагоддзя", Т. Гаробчанкі "Замежная класіка на беларускай сцэне: вопыт прачытання", С. Лаўшука "Сучасная беларуская драматургія і Купалаўскі тэатр: праблемы ўзаемаразвіцця".**

**Т. Гаробчанка ("Страціўшы веру і надзею") рэцэнзуе спектакль "Непаразуменне" А. Камю, пастаўлены рэжысёрам Ю. Лізянгевічам у тэатры імя Я. Коласа. А. Марціновіч ("Талія і Мельпамена з Нясвіжа") расказвае пра знакамітую Уршулю Францішку Радзівіл — адну з самых адукаваных жанчын свайго часу, драматурга.**

**Назва артыкула Я. Адамовіча сама гаворыць за сябе — "Свята беларускага пісьменства". Увазе чытача прапануецца трэці артыкул Г. Барышава "Батлейка". У культурнае жыццё Мінска канца XIX — пачатку XX стагоддзя вяртае М. Бяспалая. "Адмыем фальклор ад паганства" — заклікае М. Жабінская. Передрукоўваецца ўступны артыкул А. Сабалеўскага "Сілы для ўзлёту" да другога нумара альманаха "Тэатральная драматургія", падрыхтаванага часопісам "Тэатральная творчасць".**

# СУПОЛЬНЫЯ НАДЗЕІ — РЭАЛЬНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Склалася так,што я ўжо двойчы прапаноўваў чытачам "ЛіМа" нататкі з пасяджэнняў секцыі перакладу і сувязяў Саюза беларускіх пісьменнікаў. Яно, можа, і не самы лепшы варыянт (асабліва пры ўмове, што ён адзіны), калі справы падаюцца ў асвятленні таго, хто за іх адказны. Гэта — аб'ектыўна. Суб'ектыўна ж рэалізуецца іншы аспект: беручыся занатаваць змест мерапрыемства, якое ўжо адбылося, атрымліваеш нагоду і абавязак асэнсаваць канкрэтнае, да таго ж "заднім розумам", зробленае і не зробленае, усвядоміць "плюсы-мінусы", прыкінуць магчымасці і патрэбы на далейшае, а яшчэ — што асабліва істотна цяпер, калі абыякавасць усіх да ўсіх набыла проста жахлівыя маштабы — заклікаць да супольнай справы як мага больш калег. Вось і даводзілася практыкавацца ў гібрыдным жанры, які мусіў спалучаць інфармацыю, аналіз, прапановы, звароты...

Заблытаны тэрміновымі іншымі справамі, своечасова пра апошняе мерапрыемства секцыі я ўжо і не спадзяваўся напісаць. Ды вось, прачытаўшы ў нумары за 9 лютага рэпартаж Галіны Каржанеўскай з Гайнаўкі "Супольная наша надзея", атрымаў, што называецца, штуршок. І таму, што шаноўная Галіна Анатольеўна распачала свае нататкі агульнай слушнай развагаю наконт справы літаратурнага перакладу.

І таму, што пад канец яе рэпартаж змяшчае, нібыта, шкадаванне ды разгубленасць: "...мы... са свайго боку не ўзялі на сябе смеласці абяцаць, што наступная такая "бяседа" адбудзецца на нашай ужо тэрыторыі".

А справа ў тым, што сустрэча (не зусім такая, пэўна, але бясспрэчна падобная імкненнем падтрымаць супольную надзею) таго самага кшталту паводле задумы ўжо адбылася. Прычым, на тэрыторыі нашай як у сэнсе дзяржаўных межаў, так і ведамаснай прыналежнасці — у Доме літаратара, да таго ж не пазней як праз дзень пасля гайнаўскай, — 25 студзеня. Мерапрыемства было планавым, пра што загадзя інфармаваў і "ЛіМ", і паведамлялася ў каляндарным плане ДЛ. Гасцямі ж нашымі былі кіраўнікі выдавецтва "ОРТДРУК"... з Беластока.

Не ўсім у нас вядома назва гэтай фірмы. Дакладней, многім проста здаецца, што яе не ведаюць. А на самай справе неаднойчы сутыкаліся з як прадукцыяй — напрыклад, штотыднёвікам "Ніва", часопісам "Пшэглёнд Праваслаўны", кнігамі сяброў літаратурнага аб'яднання "Белавежа", нядаўна прэзентаваным у нас зборнікам Н. Артымовіч і А. Разанава "Дзверы"... Між іншым, ніхто іншы як "ОРТДРУК" выдаў кнігу, непасрэдна прысвечаную польска-беларускім літаратурным сувязям, гісторыю і сучасны стан якіх даследуюць Тарэза Занеўская і ледзь не ўсе ўдзельнікі гайнаўскай "бяседы" — Э. Кабатц, Ф. Няўважны, Ч. Сенюх, В. Швед, Я. Чыквін, С. Яновіч, а таксама іншыя.

На жаль, не ведаем. І гэта не папрок камусьці. Я сам да нядаўняга часу не меў уяўлення. А калі атрымаў яго, палічыў за абавязак падзяліцца з усімі, для каго цікава. Дарэчы, асабіста па тэлефоне звязваўся з кіраўнікамі ўсіх творчых саюзаў, музеяў, бібліятэк, выдавецтваў нашых. Нашто? А справа ў тым, што, незалежныя ад паліграфістаў "збоку", абыходзячыся малакалькасным штатам супрацоўнікаў, ортдрукаўцы здолелі наладзіць выпуск прадукцыі вельмі шырокага дыяпазону. А асаблівае прызнанне цяпер маюць як выканаўцы заказаў на альбомы, буклеты, каталогі, паштоўкі. Паводле нашых мерак, вельмі высокай якасці, а што яшчэ важней — па значна ніжэйшых, як у нас, цэнах, і ў сціслыя тэрміны.

Бадай, адно — калі гэта чуеш ад пабочнага, другое — ад саміх выканаўцаў. А тым больш, калі на свае вочы пабачыць самыя розныя віды прадукцыі. Ортдрукаўцы ж не паленаваліся, прывезлі пуды сваіх выданняў. Праўда, было на што паглядзець. І не толькі паглядзець: шчыра кажучы, ад выстаўленага, хоць яго планавалі перадаць Нацыянальнай бібліятэцы, засталася нязначная частка.

Зрэшты, у Мінску не для ўсіх "ОРТДРУК" — фірма нязнаная.І таму невыпадкова суарганізатарам, удзельнікам сустрэчы было Беларускае праваслаўнае брацтва святых Віленскіх Мучанікаў, якое даўно ўжо "праверыла" магчымасці беластоцкіх выдаўцоў. "ОРТДРУК" не першы год займаецца выпускам часопіса "Праваслаўе ў Беларусі і ў свеце" (нядаўна стаў яго сузаснавальнікам), бюлетэня "Ортапрэс", "Беларускага праваслаўнага календара на 1996 год", "Православного календаря" (на рускай мове).

Дарэчы вельмі прагучала блаславенне ўсталяванага і плануемага супрацоўніцтва ўладыкам Канстанцінам, епіскапам Навагрудскім і Лідскім, рэктарам Мінскай духоўнай семінарыі. Слова праасвяшчэннага ўладыкі было не толькі рытуальным, бо закранала шмат момантаў з гісторыі даўняй і нядаўняй, акрэслівала еднасць духоўнай прасторы. Сваім досведам і асабістымі ўражаннямі пра святыя мясціны Беластоцкага краю — Заблудаў, Супрасль, Грабарку — падзяліўся настаяцель Свята-Петра-Паўлаўскага сабора протаіерэй Георгій Латушка. Ён асабліва адзначыў важнасць традыцый асветніцтва, кнігавыдання, звязаных з Беласточчынай у мінулым, і не страчаных цяпер, што засведчана ўжо падтрымкаю часопіса "Праваслаўе", галоўным рэдактарам якога а. Георгій з'яўляецца.

Старшыня Брацтва Мікола Матрунчык падрабязна расказаў пра тое, як наладжваліся кантакты з беластоцкай фірмаю, якія вынікі дасягнуты, што плануецца непасрэдна Брацтвам і на што маглі б разлічваць іншыя арганізацыі ў супрацоўніцтве з ёю.

Сардэчна вітаў гасцей, ухваляў імкненне да ўзаемападтрымкі, а разам з тым і на канкрэтных прыкладах паказваў, як Рэспубліка Беларусь дапамагае беларусам па той бок дзяржаўнай мяжы, міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч.

І жыццёвымі шляхамі звязаны з Польшчай, і надзіва дасведчаны ў праблемах беларуска-польскага ўзаемадзеяння апошняга часу народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль скіраваў увагу прысутных да канкрэтных задач дня сённяшняга. Між іншым, ён заклікаў супольнымі намаганнямі выдаць паэму Якуба Коласа "Новая зямля" ў перакладзе на польскую мову Чэслава Сенюха. Трэба адзначыць, што гэтую прапанову міма вушэй не прапусцілі ні беластоцкія, ні мінскія ўдзельнікі пасяджэння. Яна, дарэчы, абмяркоўвалася яшчэ і на другі дзень у міністэрстве.

Выступленне народнага пісьменніка Беларусі Ніла Гілевіча таксама адлюстроўвала і жыццёвы вопыт, і жаданне актывізаваць кантакты, і відавочныя, спантанна ўзнікшыя, сімпатыі да гасцей — традыцыйна па-беларуску сціплых, а разам з тым і дзелавых, наконт чаго, здаецца, не ўзнікала сумненняў.

Дырэктар Скарынаўскага цэнтра Адам Мальдзіс пазнаёміў прысутных з праектамі

# ЯКІ ЁН, СУЧАСНЫ БЕЛАРУСКІ РАМАН?

Пра гэта ішла гаворка на сумесным пасяджэнні секцыі прозы і крытыкі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Тон размове задаў старшыня бюро секцыі крытыкі М. Мушынскі, які засяродзіў увагу на асноўных праблемах, што тычацца развіцця гэтага жанру ў беларускай літаратуры. Напрыканцы сваімі меркаваннямі па згаданым пытанні падзяліўся і старшыня бюро секцыі прозы Л. Левановіч. А ў гаворцы пра тое, што ж уяўляе сабой сучасны раман, узялі многія. Асобныя з іх найбольшую ўвагу ўдзялялі тэарэтычным развагам, вярталіся ў гісторыю літаратуры, а, вядома ж, хацелася б больш канкрэтнасці, хоць і гэтыя аспекты ў размове, безумоўна, не лішнія.

Першым слова ўзяў П. Васючэнка. На яго думку, на сённяшні дзень у нас няма такога крытыка, які б чытаў усё, што з'яўляецца з навінак, у тым ліку і раманных. І ўспомніў П. Дзюбайлу, які трымаў пастаянна ў полі свайго зроку беларускую прозу. Цяпер жа малюнак атрымліваецца іншы і не сказаць каб вельмі радасны. Увогуле, звужаецца кола чытачоў. І не толькі прафесійных, хто робіць гэта яшчэ і па абавязку. І пісьменнікі перасталі чытаць адзін аднаго. Гэтым хіба рэгулярна займаюцца, як сказаў П. Васючэнка, спарадычныя аматары літаратуры і студэнцтва. Але і яны аддаюць перавагу малым жанрам, паэзіі. У такім разе ўзнікае пытанне: ці не ўстарэў раман як жанр. П. Васючэнка перакананы, што добрая перспектыва ў гістарычнага рамана, які не згубіў папулярнасці. А будучыня, на думку выступоўцы, за жанрамі сінтэтычнымі, у якіх будуць спалучаны і філасофія, і рэалістычнае жыццё.

М. Тычына спыніўся на трох раманах, якія, як ён мяркуе, даюць падставы сцвярджаць, што ні пра які крызіс сучаснага рамана гаварыць не выпадае, проста адбываецца як бы пераасэнсаванне самога жанру ў адпаведнасці з сённяшнімі рэаліямі. Прывабілі М. Тычыну раздзелы з апошняга рамана У. Рубанава "Укус змяі", нядаўна апублікаваныя ў "Полымі". Уразілі найперш сваёй жорсткасцю погляду на жыццё, а такім яно, як вядома, і ёсць. Як бы супрацьлегласцю напісанаму У. Рубанавым успрымаецца раман Т. Бондар "Мечаная". На думку крытыка, як бы мы не адмаўляліся ад паняцця жаночая літаратура, жаночы раман, тым не менш яны існуюць. Пацвярджэнне таму і новы твор Т. Бондар. У гэтым рамане — фантан пачуццяў, феерверк думак. Часам няпроста дайсці да таго, што хоча сказаць аўтар. Але ў цэлым раман атрымаўся і калі загортваеш яго апошнюю старонку, разумееш: ён павінен быў быць напісаны. Прыцягнуў увагу М. Тычыны і раман М. Кусянкова "Явар з калінаю": твор уражвае выверанасцю аўтарскіх адносін да таго, пра што расказваецца.

Прысутным было цікава і карысна паслухаць меркаванні аднаго з патрыярхаў беларускай літаратуры, народнага пісьменніка Беларусі Я. Брыля. Іван Антонавіч выступаў як бы ў двух іпастасях — і як практык літаратуры, які вельмі шмат зрабіў у ёй, і як уважлівы чытач, які ўмее па-сапраўднаму радавацца кожнаму новаму таленту. Прынамсі, ён хораша гаварыў пра выступленне ў галіне прозы М. Купрэева. Вельмі станоўча ацаніў новую аповесць Л. Арабей "Касцюмерша". Як быццам і тое, і другое не падпадае пад вызначэнне раман... Тое ж тычыцца і аповесці А. Федарэнкі "Вёска", пра якую Іван Антонавіч таксама высокай думкі. Але нездарма Я. Брыль у пачатку свайго выступлення нагадаў, што ў замежнай літаратуры, у прыватнасці, у польскай, панятце раман не існуе. Не так і важна, якое жанравае вызначэнне свайму твору даў аўтар, галоўнае — што ён змог сказаць, якія праблемы ўзняў. Успомніў

ўстановы, якую ён узначальвае. Асобны акцэнт паставіў на тым, што падрыхтавана ўжо даследаванне, прысвечанае гісторыі Праваслаўя Беларусі, і прапанаваў беластоцкім выдаўцам дапамагчы яго надрукаваць.

Свае меркаванні, прапановы, пажаданні выказалі таксама М. Кенька, С. Палякоў, У. Мархель, К. Цвірка.

Ад фірмы "ОРТДРУК" першы слова ўзяў яе сузаснавальнік, былы пасол Сейма РП, адзін з пачынальнікаў праваслаўнага брацкага руху на Беласточчыне Яўген Чыквін. Ён расказаў, як стваралася гэтае, цяпер шматпрофільнае, выдавецтва, з прыватнай друкарні, што мела адзін станок у буданчыку, павольна заваёўваючы сабе аўтарытэт і кола заказчыкаў. Абапіраючыся на свой вопыт рэдактара такога спецыфічнага выдання, як "Пшэглёнд Праваслаўны", пан Чыквін даў характарыстыку веравызнаўчай і моўнай сітуацыі на Беласточчыне.

Канкрэтна сваё разуменне ролі фірмы, яе магчымасцяў у межах Беласточчыны і шырэйшай прасторы выклаў дырэктар, пан Юры Андраюк. Усе, хто звяртаўся з пытаннямі, чулі дакладныя адказы, што, за які кошт і ў які тэрмін можа выдаць "ОРТДРУК". І як правіла пераконваліся, што гэта выгадна. Вось толькі б пытанні дастаўкі вырашыць. А яшчэ каб можа было, з адпаведнымі датацыямі ад нашай дзяржавы, там выдаваць кнігі, якія ўключаюцца ў дзяржзаказ. Толькі гэта ўжо кампетэнцыя ўладных структур, а не суполкі пісьменнікаў.

На жаль, як і наша ў Гайнаўцы, прадстаўніцтва "ОРТДРУКУ" было не ў планаваным складзе. Адсутнічаў Міраслаў Матрэнчык, кіраўнік прадстаўніцтва Сусветнай рады цэркваў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, галоўны рэдактар наваствoранага часопіса, прызначанага актывізаваць дабрачыннасць, спрыяць сацыяльнаму служэнню Царквы і міжцаркоўнаму паразуменню. Думаецца, непатрэбны каментарыі да таго, што першы нумар гэтага часопіса, які распаўсюджваецца па ўсім свеце на англійскай і рускай мовах, цалкам прысвечаны Беларусі.

Не было чаго скардзіцца ўдзельнікам гэтага пасяджэння і на ўвагу сродкаў масавай інфармацыі.

Падагульваючы, і тады, як вядучы, і зараз, я трымаў у памяці вельмі ўдалую назву прыгаданай тут ужо кнігі Тарэзы Занеўскай — "А душа на Усходзе". І думаў, як пры цяперашніх умовах няпроста знаходзіць належны прытулак жывым душам нашых суродзічаў тут, на некалькі соцень кіламетраў на ўсход. Каб гэта з прыгожай метафары стала прывабнай рэальнасцю, патрэбен час. І, вядома ж, высілкі, найперш з нашага боку.

**Іван ЧАРОТА**

---

старэйшына літаратуры і тыя добрыя часы, калі пісьменнікі яшчэ чыталі адзін аднаго. А паколькі чыталі, то і ў час абмеркаванняў узнікалі жывыя дыскусіі. Цяпер гэтага няма, але ж, як сказаў Іван Атонавіч, адно слова, адно пісьмо ад чалавека, які цябе падтрымаў, які цябе разумее, і ў наш час — вялікая маральная падтрымка.

Змястоўнымі атрымаліся выступленні В. Коўтун, Л. Сяньковай, У. Конана, Т. Дасаевай, М. Кенькі, М. Няхая. Яны закранален розныя аспекты. В.Коўтун, у прыватнасці (яе многія падтрымалі), прапанавала правесці больш шырокую гаворку аб тым, чым жыве сучасная літаратура, якія яе стасункі з чытачамі, прыцягнуўшы да гэтай справы і Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі. У. Конан прыгадаў вопыт перыядычнага друку царскай Расіі (а гэта назіраецца сёння ў краінах Еўропы і Амерыкі), калі пры выданнях быў адзін прафесійны крытык, які рэгулярна выступаў з аглядамі літаратуры. Т. Дасаева гаварыла аб некаторых раманах, што з'явіліся апошнім часам. Найбольш увагі яна засярoдзіла на рамане Г. Далідовіча "Кліч роднага звона", першая кніга якога апублікавана летась у "Полымі". У цэлым ацаніўшы твор высока, яна зрабіла аўтару і канкрэтныя заўвагі. Л. Сянькова, кінуўшы позірк у 20-я і 30-я гады беларускай літаратуры, правяла паралель з днём сённяшнім, разгледзеўшы творы А. Асіпенкі, В. Казько.

Гаворка пра сучасную прозу будзе прадоўжана. Секцыя прозы мяркуе наладзіць абмеркаванне аповесцяў, што былі змешчаны ў 1995 годзе ў часопісах "Полымя" і "Маладосць".

---

Часопісы ў студзені

# УЗІРАЮЧЫСЯ Ў НОВЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ

Надзіва багатыя першыя ў сёлетнім годзе нумары нашых літаратурна-мастацкіх часопісаў на цікавыя і значныя публікацыі. Зрэшты, гэта можна зразумець: рэдакцыі імкнуцца пачаць год лепшым з таго, што ёсць у "партфелі". І ўсё ж парушу завядзёнку і пачну гаворку не з уражанняў ад прозы ці паэзіі, а з "ліста ў рэдакцыю" інжынера В. Скарахода "Зоркі Айчыны", змешчанага ў "Маладосці". Чаму? Аўтар выказвае захапленне кнігай "Мысліцелі і асветнікі Беларусі", якая, як вядома, летась пабачыла свет у выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі. Радуецца і разам з тым канстатуе: "А горыч і крыўда ад таго, што яна так позна, ужо на схіле жыцця, прыйшла да майго пакалення і не змагла зрабіць таго дабратворнага ўплыву на фарміраванне нашага светапогляду, які ў сабе нясе. Няхай жа яна стане крыніцай нацыянальнага патрыятызму для нашых дзяцей і ўнукаў".

Разумею спадара Скарахода і падзяляю яго горыч. Ды — яму яшчэ пашанцавала! А вось ці будуць мець падобную магчымасць сустракацца з такімі унікальнымі выданнямі тыя ж "нашы дзеці і ўнукі", пра якіх ён згадвае? Ці будуць яны выходзіць, падобныя краязнаўчыя кнігі, эсэ пра нашых знакамітых землякоў, і надалей? Усе мы, пэўна, заўважылі, што апошнім часам у некаторых выданнях вельмі ж актыўна вядзецца наступ на публікацыі адраджэнскага характару, што з'явіліся ў газетах і часопісах адпаведнага адраджэнскага кірунку. Пры гэтым да канкрэтнай асобы падыходзяць з пазіцыі сённяшніх палітычных амбіцый, на першы план высоўваючы не тое, што зрабіў гэты чалавек у літаратуры, мастацтве, культуры, што даў сваёй дзейнасцю дзеля росквіту Бацькаўшчыны, а тое, у якую партыю ўваходзіў, з кім "супрацоўнічаў". Адным словам — "наш" ён ці "не наш". Мо трэба пісаць і пра гэта, але — разумна, з улікам тагачасных рэалій, не спрабуючы чарговы раз "падчышчаць" гісторыю. І дзеля нацыянальнай згоды, дзеля кансалідацыі нацыі не трэба кідацца ў наступ на таго, чыю пазіцыю не падзяляеш ці падзяляеш не цалкам.

Таму і мяркую, што ліст В. Скарахода ў "Маладосці" вельмі дарэчы. А паколькі ён змешчаны амаль напрыканцы нумара, дык у пэўнай ступені і як бы падагульняе яго.

Чытаць жа ў "Маладосці" ёсць што. Зноў радуе прыхільнікаў свайго таленту Р. Барадулін. Розныя вершы ў нізцы: і з выразнай адраджэнскай скіраванасцю, і прачула лірычныя, у якіх жыве любоў, каханне, замілаванне. Як у гэтым — "Шчыра":

**Шчыра мне ўсміхнуліся аднойчы**
**Як дзяўчаты ў першым перапудзе,**
**Вінавата-ўсцешлівыя вочы,**
**Хітравата-здзіўленыя грудзі.**

**І былі ў самоты на ўсяночы,**
**Як жывыя душы на бязлюддзі,**
**Стомлена-зажураныя вочы,**
**Радасна-абураныя грудзі.**

**Зорна смех губляць у зааблоччы**
**Будуць,**
**І калі мяне не будзе,**
**Вейкамі прывечаныя вочы,**
**Некаму прысвечаныя грудзі...**

А як абмінуць эсэ Я. Сіпакова "Сады"?! Яшчэ адно нагадванне — "усе мы з хат". А таксама пра повязь з зямлёй маленства, з тым, значнасць чаго асабліва адчуваеш з гадамі, калі першачарговыя ўражанні ў нечым прытупляюцца, а ў чымсьці ўзмацняюцца... І гэта сапраўдная паэзія ў прозе: "Пах яблык і пах скошанай травы. Яны звычайна зліваюцца ў адно. І адкуль ні ідзеш — ці то з лесу, з грыбоў, ці то ад крыніцы, з вадою, — цябе яшчэ далёка ад хаты сустракае гэты пах і потым не адпускае ад сябе ўвесь час, пакуль ты робіш нешта на панадворку.

Па паху і смаку можна зразумець, адгадаць характар кожнай яблыні".

І яшчэ:

"На сад заўсёды прыемна глядзець.

Гляджу раніцою ў добрае, цёплае і сонечнае надвор'е. Навокал ціха-ціха, не варушыцца ніводзін лісток. І раптам, як усё роўна жывая, затрапечацца, заб'ецца аж цэлая галінка ў нейкай сваім, толькі ёй вядомым клопаце, — ветру няма, а здаецца, што нехта дзьме на яе знарок..."

Аповесць В. Гардзея "Ці то грэбля, ці то гаць" — вяртанне ў маленства. Герой твора — "абарыген і вязень тутэйшых мясцін" хлапчук Вінаградаў. Праўда, сапраўднае імя яго Вася, прозвішча Аліфер, ды так Васю ніхто не заве, а з лёгкай рукі яго дзеда клічуць Вінаградавым. І на тое ёсць прычына: "Рэч у тым, што дзесьці ў Ганцавічах жыве двайнік Вінаградава. Ці, можа, наадварот: двайнік жыве тут, у Малым Сяле, а ўсамдзелішні Вінаградаў наводзіць страх на людзей там, у мястэчку... У маласельскага Вінаградава і ганцавіцкага падабенства толькі знешняе: ружовы твар, тоўстыя шчокі, вялікаваты жывот. Аднак глядзі ты, прыліпла мяно, як смала".

Чаго толькі з Вінаградавым малодшым не адбываецца?! В. Гардзей піша з любоўю да свайго юнага героя і, як звычайна ў яго прозе, у аповесці шмат дасціпнага, незласлівага гумару. А за ўсім гэтым — жыццё палескай глыбінкі пачатку пяцідзесятых гадоў...

"Полымя" — гэта найперш раман І. Чыгрынава (на жаль, сам аўтар публікацыі не дачакаўся) "Не ўсе мы згінем". Як вядома, папярэдні раман "Вяртанне да віны" заканчваўся паведамленнямі "З дзённіка баявых дзеянняў асноўных войск арміі "Цэнтр". А калі канкрэтней — даняседнем фашысцкага камандавання, датаваным 31 снежня 1942 года: "Адбылася нарада генерала фон Шэнкендорфа з фельдмаршалам. Фельдмаршал павіншаваў ахоўныя войскі з Новым годам. Над армейскім тылам стаяць халады. Мы зноў зімуем у большасці сваёй у Беларусі ў абдымках лютых марозаў і варожых настрояў". З гісторыі ж Вялікай Айчыннай вайны вядома і тое, што ў наступным, сорак трэцім, годзе размах усенароднай партызанскай барацьбы з акупантамі дасягнуў, можна сказаць, апагея. Канечне, не маглі не застацца пры гэтых умовах убаку і атрады, што дзейнічалі ў Забесяддзі.

І. Чыгрынаў, працягваючы цыкл, меў магчымасць падрабязней расказаць пра гэта, усебакова паказаўшы, як людзі, адданыя савецкай уладзе, нарэшце змаглі ад слоў перайсці да справы. А гэты паказ і расказ, безумоўна, патрабаваў не толькі немалых творчых намаганняў. Відавочна, што ён прывёў бы да з'яўлення новых сюжэтных адгалінаванняў, удакладнення пазіцыі асобных персанажаў. Тым самым цыкл мог бы зноў расцягнуцца і наўрад ці можна было б абысціся не тое што адным, а і двума раманамі.

Пісьменнік, думаецца, знайшоў правільнае выйсце. Паколькі раман "Не ўсе мы згінем" быў задуманы як завяршальны, то асноўная ўвага засяроджана на тым, як на тэрыторыі Беларусі заканчваўся разгром нямецка-фашысцкіх захопнікаў. А пачаўся ён, як вядома, у сярэдзіне 1943 года. Для партызан жа (тых, каго не ўзялі на фронт) барацьба з ворагам закончылася ў ліпені 1944 года, калі ў Мінску перад Домам урада адбыўся знакаміты парад пераможцаў.

У выніку і акрэсліліся часавыя рамкі рамана. А каб стыкоўка з папярэднім "Вяртанне да віны" адбылася, аўтар неаднаразова звяртаецца да рэтраспекцый, якія дазваляюць удакладніць асобныя моманты з жыцця персанажаў, хоць у завяршальны твор з папярэдніх іх перайшло не так шмат. А калі ўзяць пад увагу тых, хто нясе асноўную раманную нагрузку, дык усяго двое — Дзяніс і Масей Зазыбы. Бацька і сын. Астатнія ж персанажы не тое што эпізадычныя, яны проста з'яўляюцца на якое імгненне. А іншыя... Іншых даўно няма ў жывых. У адных выпадках, як гэта здарылася з нечаканай гібеллю жонкі Зазыбы Марфы Давыдаўны, расказваецца падрабязна. У другіх — з'яўляецца лаканічнае, у чымсьці блізкае да тэлеграфнага, паведамленне — і так зразумела, што здарылася.

Шмат увагі ў рамане (незадоўга да смерці Іван Гаўрылавіч дзяліўся са мною планамі і выказваў меркаванне, што, магчыма, з цягам часу, вернецца яшчэ да вобраза Масея Зазыбы) удзелена Масею, які, шукаючы сваё месца ў ваенных абставінах, так і не прыстаў да пэўнага берага, хоць, незадоўга да вызвалення Беларусі, апынуўся ў Мінску, у асяроддзі тых, хто па-свойму дбаў пра новую Бацькаўшчыну. Тым не менш для яго не заставалася сумнення: "...чакаць Чырвоную Армію ў Мінску яму... нявapта. І не столькі таму, што друкаваўся ў газетах, якія выходзілі ў шматлікіх гарадах на акупіраванай тэрыторыі. Ніхто ж не вызваляў яго ад віны, за якую трапіў у лагер за Марыінскам. Сюды дадавалася праца ў валасным упраўленні ў Бабінавічах. У вачах улады, якая вярталася, усё гэта мела сваю шкалу вызначэння віны. Што-што, а наконт гэтага Масей не памыляўся. Іншая справа, каб яго няшчасці скончыліся трыццатымі гадамі і каб яму ўдалося пракідацца ваенны час пры бацьку ў Верамейках. Аднак лёс не захацеў паказаць літасць".

І Масей вырашыў развітацца з Радзімай, хоць, уладкоўваючыся на паліцу ў вагоне, і не хацеў верыць, што ўсё стала рэальнасцю: "Дзіўна, але Масею чамусьці здавалася, што апынуўся ён у гэтым цягніку выпадкова і хутка пакіне яго. Ад гэтага на душы пакуль не адчувалася нават развітальнай журбы з радзімай..." А вось бацька, Дзяніс Яўменавіч, адразу ўпэўніўся, што развітанне з сынам назаўсёды, ледзь пачуў пра Масееў ад'езд: ён "добра ўжо разумеў, што страціў Масея назаўсёды. Сыну заставалася адно: мыкацца, гараваць па чужых краях. А гэта, бадай, горай, чым адседжваць новы тэрмін на Калыме ці Пячоры".

Несумненна — наперадзе грунтоўнае прачытанне новага рамана І. Чыгрынава крытыкай. Як і асэнсаванне ўсяго "верамейкаўскага цыкла". Зірнуўшы на ўсе пяць раманаў у іх дыялектычным адзінстве, як на цэласны мастацкі твор, можна ва ўсёй паўнаце і маштабнасці адчуць задуму І. Чыгрынава, зразумець, наколькі адметна, па-свойму ён змог сказаць пра ўсенародную барацьбу з фашызмам.

Жаданне крытыкі выказацца, відаць, выкліча і раман І. Шамякіна "Вялікая княгіня", публікацыю якога пачала "Маладосць". Усё ж не часта надараецца, каб пісьменнік у такім сталым узросце паспрабаваў сябе ў гістарычным жанры, вярнуўшыся на некалькі стагоддзяў назад. Іван жа Пятровіч, як відаць з гэтых першых раздзелаў, паспяхова справіўся з пастаўленай задачай. Самае важнае, што раман **чытаецца**.

Змястоўным атрымаўся студзеньскі нумар "Беларусі". У ім і гутарка М. Тычыны з І. Шамякіным "Я роўна 50 гадоў у літаратуры...", і вершы В. Гардзея, Л. Дранько-Майсюка, П. Пруднікава, і цудоўны дзіцячы разварот "Сонейка" ("Падказкі-згадкі" Р. Барадуліна, "Смяшынкі" Н. Галіноўскай, казка Т. Мушынскай "Дзень добры, Снегавічок!"), і эсэ Я. Сіпакова "Лёс" (піша Іван Данілавіч чарговую кнігу "Дні за спіною"), і шмат матэрыялаў з культурнага, музычнага жыцця.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ЮБІЛЯР — СЫН ЯКУБА КОЛАСА

8 лютага ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася вечарына, прысвечаная 70-годдзю з дня нараджэння Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча, малодшага сына Якуба Коласа. Прысутнічаў і сам юбіляр. А таму прасторная гасцінaя была поўная.

З віншаваннямі выступілі былы дацэнт БГПА Л.Панкавец, дырэктар фізіка-тэхнічнага інстытута АН РБ А.Астапчык, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта В.Казлова, а таксама — дзеці з фонду "Сакавік" і землякі са Стаўбцоўшчыны.

Была прадстаўлена вялікая колькасць здымкаў, зробленых юбілярам (Міхась Канстанцінавіч — вялікі фотааматар).

Да вечарыны была прымеркавана і другая дата: 105-годдзе з дня нараджэння Марыі Дзмітрыеўны Міцкевіч, жонкі Якуба Коласа. З гэтай нагоды ў музеі адбылася выстава, на якой былі прадстаўлены здымкі Марыі Дзмітрыеўны, пісьмы Якуба Коласа да жонкі, успаміны.

Алена ДРОЗД

## СТОЛЬКІ ЛЮДЗЕЙ

рэдка калі прыходзіць на мерапрыемствы, што праводзяцца ў Доме літаратара, колькі іх сабралася на творчую вечарыну народнага паэта Беларусі, вядомага грамадскага і культурнага дзеяча-адраджэнца Ніла Гілевіча "Мой белы дзень". Прыхільнікі таленту Ніла Сымонавіча і яго творчай і жыццёвай пазіцыі проста-такі перапоўнілі залу, многія вымушаны былі нават слухаць тое, што прамаўлялася на сцэне, у фае — ім не хапіла ні прыстаўленых крэслаў, ні месца на праходах.

Адметнасцю вечарыны было тое, што Н. Гілевіч адзін на працягу не адной гадзіны вёў дыялог з залай — перад пачаткам яго выступлення літаральна некалькі слоў пра паэта сказаў В. Рагойша. Гучалі творы розных гадоў і розных жанраў, закраналіся самыя надзённыя праблемы жыцця і ў першую чаргу — захаванне роднай мовы, выжыванне нацыі. Н. Гілевіч адказаў на дзесяткі пытанняў сваіх удзячных слухачоў і чытачоў.

Н. К.

## ШАМЯКІН: ГОД ЗА ГОДАМ

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адкрыта выстаўка, прысвечаная 75-годдзю з дня нараджэння І. Шамякіна. Яе экспазіцыя — магчымасць перагарнуць асноўныя старонкі жыцця і творчасці народнага пісьменніка. Яе аўтары — загадчыца аддзела З. Кучар і мастак У. Капшай — паклапаціліся, каб не ўпусціць нічога, што дазваляе лепш зразумець, якая багатая біяграфія творцы. Жыццё Івана Пятровіча прасочваецца літаральна з маленства, чаму ў немалой ступені дапамагаюць вытрымкі з аўтабіяграфіі пісьменніка. Тут жа — кнігі, якія ён любіў чытаць, здымкі яго бацькоў. Здымкаў у экспазіцыі вельмі шмат і самых розных гадоў. Шырока прадстаўлены творы Івана Пятровіча — як у арыгінале, так і ў перакладах на мовы свету.

Ранейшая падобная выстава тут прысвячалася яшчэ аднаму слыннаму майстру беларускай літаратуры — народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву.

## ЛАЎРЭАТЫ ЧАСОПІСА "МАЛАДОСЦЬ"

Рэдакцыя часопіса "Маладосць" разгледзела публікацыі 1995 года і прысудзіла прэміі за лепшыя творы: Ірыне Хадарэнцы (вянок санетаў "Лабірынты душы", N 3), Лідзіі Лукіянавай (кніга прозы "Першая запаведзь", "Бібліятэка часопіса "Маладосць"), Галіне Багданавай (артыкулы "Формула спрадвечнасці", N 1, "Ці лёгка жыць на балоце", N 8), Вітаўту Чаропку (кніга публіцыстыкі "Гісторыя нашага імя", "Бібліятэка часопіса "Маладосць"), Віталю Дударэнку (мастацкае афармленне NN 1—12).

Паэзія

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ



# ВЫСОКА НАШЫ ЗОРЫ

## ПЯСНЯР

Мой шлях абмінае густыя лясы,
Высокія замкі і вежы.
Спакою не ведаць,
карон — не насіць,
І Госпаду толькі належаць —
Раскоша!
Кілім верасовы — і ноч,
І райскія птушкі шчабечуць.
І што мне да нечых спалоханых воч,
Да брыдкіх страсцей чалавечых.
Я — песня:
аднойчы замоўкнуць — не жыць.
Гукну — і Сусвет адгукнецца,
І з неба крынічкай вясёлка збяжыць,
І ў камні загрукае сэрца.
Але для людзей — назаўсёды нямы.
Стаміўшыся лаяць і хапаць,
Яны спачываюць — і поўняць дамы
Юрлівымі снамі ды храпам.
Ніколі, нікому — ні слова майго...
Што перлы — свінячай пародзе?
Я буду спяваць для дажджоў і снягоў,
Для ветраў і траваў...
І годзе.
Чаму ж ты знясілела, песня мая?
Цябе адпусціў я на волю.
Ніхто тут не зможа нас больш абсмяяць,
Не зведаем крыўды і болю.
Ніхто не пагоніць, ніхто не заб'е...
Ляці, як калісьці, да зорак!
Пакінуць не можаш ты грудзі мае,
Як мацерку — хворы дзіцёнак.
Чаго не хапае?
Няўжо бізуноў
І сытага рогату з вокнаў?
І трэба вяртацца ў зняволенне зноў,
Для нейкіх вар'яцкіх законаў?
Слязінкамі капаюць зоры з нябёс...
А помніш, як плакалі людзі,
І слухалі песню, як слухаюць лёс,
Як моляцца Богу аб цудзе.
А помніш, як часам у нечых вачах
Ад песні успыхвалі зоры?
І значыць, што нехта забыўся на страх,
І здрадзіў навечна пакоры.
Імгненні...
Як рэдка такія былі...
А можа, іх дзеля — і толькі —
І дадзена быць песнярам на зямлі,
І грэх адлятаць за аблокі?
...Мой шлях абмінае густыя лясы,
Высокія замкі і вежы.
Спакою не ведаць,
карон не насіць,
І Госпаду толькі належаць,
І быць — да апошняга —
гэтым жыву —
З народам сваім — і ў народзе,
Ці кінуць за спевы мядзяк на траву,
Ці зноў бізунамі заплоцяць.

## ЛЕДА І ЛЕБЕДЗЬ

Звіняць нажныя бранзалеты,
Знізана перламі прычоска...
Да лебедзя збягае Леда,
Дзяўчына, гожая па-боску.

На залаты пясок Элады
Соль намываюць хвалі мора.
Каханне можа быць крылатым,
Але бяскрылым будзе гора.

Валодаць дарам прыгажосці
Не блаславенне — пакаранне.
Растане лебедзь у палёце,
Спатолішы сваё жаданне.

Ах, як па-чалавечы гэта!
З якім спакоем алімпійскім
Вы накідалі плашч на плечы,
А мы — рыдалі ля калысак,

Багі — а больш дакладней — стоды,
Самаўлюбёныя да згубы.
Над морам вечнае самоты,
Дзе хвалі вечна шэпчуць: "Любы!"

І разбіваюцца аб бераг,
Дзе залаты пясок іскрыцца...
Смяецца на Алімпе Гера
Над гожанькай зямной дурніцай...

## ВОЎК

*Паводле прымхі старажытных лацінян, той, каго пры сустрэчы воўк убачыць першым — знямее...*

Воўк, ты ўбачыў мяне не першым.
Я не страціла слоў, о, не.
Мне здалося, што ты залежаў,
Дзікі звер, ад хатняй, мяне.

Шкода бачыць, як ты, магутны,
Па траве, як вужака, поўз,
І пагляд твой зрабіўся мутны
Не ад злосці — адчайных слёз.

Звер, скуголіў ты так, бо ведаў,
Што ў мяне, пяшчотнай такой,
Столькі жорсткасці воўчай гэткай,
Колькі ўлады ёсць над табой.

Не здыму я з цябе, ваўчышча,
Зачараваны ланцужок,
Каб вярнуўся ў сваё аблічча,
Каб ізноў да людзей прыйшоў,

Каб устаў, малады, прыгожы,
Засмяяўся, пацалаваў...
На Купалле так лёгка можна
Заблукаць між высокіх траў...

Не! Забуду, пераступіўшы
Праз пакуту тваю, — на ўсё:
Як свяціліся, быццам вішні,
Вочы, поўныя воўчых слёз,

Як дрыжэў ты, не змогшы болю,
І завыў на мае сляды,
І кацілася рэха полем
У далёкія гарады.

І каціліся з неба знічкі,
І вянкі на рацэ плылі...
...Ты ў ваўчыным жывеш абліччы,
Мой адзіны на ўсёй зямлі.

## РОЗДУМ У ЧУЖОЙ КЕЛЛІ

Як часта з кляштароў рабілі турмы...
Праз вузкае вакно відаць Сусвет —
Кавалак неба, быццам позірк, сумны,
І хмары карабель па ім плыве.
Не адчуваю ні тугі, ні страху.
Адно — жаданне, каб застацца тут,
Дзе малявалі абразы манашкі,
Царэўны адбывалі свой прысуд.
Куды каханкаў зрэдку запрашалі
Адчайныя і грэшныя...
Няхай
За гэты грэх каралі іх без жалю —
Яны спазналі свой нядоўгі рай.
Сюды ішлі ў слязах замілавання,
Сюды вялі з нянавісцю сляпой...
Тут ад малітваў плавіліся камні,
І ад праклёнаў прамярзаў пакой.
То шкло ў вакне, то вітражы,
то краты.
І старасць тут жыла, і маладосць.
І памяці тутэйшай Эсмеральды
На сценах, пэўна, недзе надпіс ёсць.
І як шкада, што я не маю веры,
Тут заснаваць Сусвет
са сноў і слоў...
Мой спадарожнік адчыняе дзверы
І кажа, што пара ісці дамоў.

●

Самыя доўгія ночы.
Ночы без зораў, без снегу.
Не адпускай мяне, Ойча,
ў гэтае цемрыва грэху.
Не аддавай мяне, Ойча,
гэтаму свету прарокаў —
Бо Саламея ўсё танчыць,
рукі ўздымае высока.
Тонка звіняць бранзалеты,
кружыць яе пакрывалы.
З шоўку празрысцей завеі,
з вогненным імем Ваала...
Стан выгінаецца гнуткі,
твар не ўсміхаецца белы...
Не пасылай мяне, Ойча,
ганьбіць лілейнае цела.
Ёсць у няведанні — шчасце,
святасць — у жорсткасці цноты.
Не наракай мяне, Ойча,
увасабленнем самоты...
Пасак таненькі ўзыходу —
сцежка ад цемры і сцюжы...
Там сарамлівая Дзева
цеслю прымае за мужа,
Не спакушае нікога,
не забівае нікога,
Проста і трохі наіўна
волю выконвае Бога...
А Саламея ўздымае
рукі так страсна і гожа...
І Магдалінай святою
я не ўяўляю яе, Божа...

●

Самота і снег,
і няверная ноч на двары.
Не думай пра шчасце —
а проста са мной гавары.
Я засумавала
без шчырых нягучных размоў.
За шыбамі зоры,
і свет аднаўляецца зноў.
Я кубкі напоўню ўспамінамі —
горкі напой.
Мне ёсць што забыцца —
таму я сумую з табой.
У кругзе магічным,
якім заклінаюць тугу,
Свой кубак наліты
ніяк я дапіць не магу,
І нітка размовы
сплятаецца ў вузел тугі,
І недзе высока над намі смяюцца багі.
Самота і снег,
і дамы збудаваны з ільдзін.
Сусвет не змяніць —
кожны з нас — назаўсёды —
адзін.

●

Жыццё прыцісне, як магільная зямля,
Не выпрастаеш крыл,
і не расцісне вуснаў.
Крыжы царкоўныя над горадам ляцяць,
На іх ляцяць
раскрыжаваныя Ісусы.
Не адрадзіць нікому горад мерцвякоў.
Нашто ахвяры,
самаспальванне і вершы.
Я за пісьмовы стол сядаю зноў і зноў,
І зноў натхненне
за радком канае першым.
Усё цяжэй сваю адрозненнасць
трываць,
Сваю няздатнасць далучыцца
да грамадства.
Так неадольна, часам,
хочацца лятаць,
Што застаецца
толькі горка рассмяяцца.

●

Пра што пісаць?
Высока нашы зоры,
Што ім да нашай цьмянай мітусні.
Не ведаюць гардыні і пакоры
Яны ў сваёй халоднай вышыні.
Пра што пісаць?
Не разумеюць людзі.
Адам кусае яблык не таму,
Што той, хто з'есць яго —
разумным будзе,
А проста есці хочацца яму.
Але маўчаць?..
Няшмат у гэтым шчасця.
Маліцца цяжка ўласнаму крыжу,
Калі ад болю хочацца праклясці...
Я не жадаю шчасця.
Я пішу.

***У другім-трэцім нумары часопіса "Полымя" друкуецца мая аповесць "Любімы горад". Аб чым яна? Аб тым, што ў бясхмарны даваенны час мы не такой, як вынікла, уяўлялі вайну, а ў вайну марылі пра мір, які аказаўся далёкім ад нашых мар і летуценняў.***

***Ёсць новыя героі ў аповесці, а ёсць і знаёмыя чытачу па папярэднім біяграфічным цыкле — "Дзяцінства", "Падлетак", "Юнацтва".***

**Аўтар**

Іван НАВУМЕНКА

# РАССТАННЕ ПАСЛЯ СУСТРЭЧЫ



УРЫВАК З АПОВЕСЦІ

Вясна пачынаецца з разліву святла. Яшчэ са стрэх звісаюць ледзяныя зеленавата-сінія суслы, на дарогах хрупасткі лядок, мярэжай сінечы ахутаны далёкі лес, а ў паветры ўжо пануе незвычайная празрыстасць. Яшчэ па-зімоваму мароз можа цісканущь, нават дзівосныя ўзоры намаляваць на шыбах, але подых вясны спыніць нельга. Выглядвае з-за калматых, шматслойных воблакаў сонца, балбочуць раўчукі, весела ціліўкаюць, вылезшы з застрэшшаў, вераб'і. Вечарам зашэрхлая скарынка хрупасткага лёду зноў пакрывае дарогі, з поўдня лёд падтайвае, па агародах, ля платоў асядаюць, чарнеючы, гурбы снегу.

Два месяцы не быў Васіль у Мазыры. Засумаваў па рэдакцыі, па Гэлі.

Работа яму пачынае прыядацца. Наступіць вясна і будзе тое самае, што летась і пазалетась. Будзе пісаць пра ворыва, вывазку ўгнаенняў, сяўбу, касавіцу. Каб хоць сам вазіў гной ці араў. Васіль працаваў у рамонтнай брыгадзе і ведае адчуванне рабочага чалавека. Пасля змены прыемная стома і адчуванне выкананага абавязку.

Цяпер — не тое. Часам баліць галава. Не хіліць да сябе аднастайнае пісанне артыкулаў за брыгадзіраў і старшынь калгасаў. Бо ёсць тут штосьці ад хлусні. Ніводны нармальны чалавек (выключэнне складаюць рыбакі і паляўнічыя) не будзе пахваляцца, як ён выканаў тую або іншую работу.

Васіль друкуе цяпер патроху вершы, фельетоны, рэцэнзіі на новыя кнігі. Але, можна сказаць, робіць гэта праз сілу. Бо мястэчковая рэчаіснасць не дае ніякага грунту для ўзлёту духу. Усё вельмі звычайна, празаічна. Відаць, нават вялікі пісьменнік Шолахаў, які жыве ў станіцы Вёшанскай, не можа ўзляцець над шэрасцю, аднастайнасцю жыцця. Таму мала піша і не падымаецца вышэй напісанага раней.

Каб не Мінск, універсітэт, Васіль проста не вытрываў бы. Пайшоў бы на чыгунку ў рамонтную брыгаду або ў леснікі. Каб адчуваць сваю годнасць, патрэбнасць існавання.

Нядобра ўражвае Васіля зняцце з пасады сакратара райкома Шурко. Ён цяпер ведае прычыну: выклікалі сакратара райкома ў Мінск, у ЦК КПБ, доўга корпаліся ў анкеце. Нарэшце сакратар па кадрах Жылянін заяўляе: не мае Шурко маральнага права працаваць у райкоме. Бо позна пайшоў у партызаны. Вясной сорак трэцяга года.

А чаму не падумалі ў высокім ЦК, што Шурко самая яркая асоба ў раёне.

Ды і вядома дакладна: партызаны ў Паўднёва-Прыпяцкай зоне, дзе жыў Шурко, толькі ў сорак трэцім годзе пачалі арганізоўвацца. Не мог адзін Шурко стварыць партызанскую брыгаду.

Войцік бачыў Жыляніна. Яшчэ ў партызанах. Тады сённяшні партыйны чын быў яшчэ камсамольскім важаком. Праязджаў па атрадах і брыгадах. Чарнявы, з тонкімі злымі губамі і нахмураным тварам. У іхняй брыгадзе нават не запыніўся. Сядзеў на кані, у добрым рыпучым сядле, з перавешаным праз шыю аўтаматам. Акружалі яго чалавек трыццаць такіх, як сам, малайцоў з новенькімі аўтаматамі. А ў іх брыгадзе аўтамата не мелі нават камандзір і камісар.

Запытаць бы ў Жыляніна, які распараджаецца людскімі лёсамі, пра сёе-тое. Напрыклад, пра тое, чаму адступала армія да Волгі і Каўказа. І як мусілі паводзіць сябе нават не мільёны, дзесяткі мільёнаў людзей, што апынуліся пад уладай ворага. Дзе і як мусілі здабываць харч, вопратку, дах над галавой? Бо гэта элементарныя рэчы. без якіх не можа жыць чалавек. Але іх або не заўважаюць, або свядома замоўчваюць. У тым ліку высокі партыйны чын Жылянін.

Васіль чытае новыя творы пра вайну, якія друкуюцца ў "тоўстых" часопісах. Часам аж непрыемна робіцца, як прыгладжваюць, прылізваюць трагічныя падзеі вайны пісьменнікі, рэдактары. Нібыта не было адступленняў, акружэнняў, соцень тысяч нашых ваеннапалонных, гібелі мільёнаў людзей. Некаторыя пісакі нават спрабуюць сцвярджаць, што вайна вялася па строга прадуманым плане...

Збіраючыся ў Мазыр, сесці на тормаз таварняка Васіль больш не адважваецца. Хопіць, сухі плеўрыт нажыў. Тым часам пасажырскі цягнік Гомель—Брэст прыходзіць у чыгуначны гарадок у вельмі непрыдатны час. У адзінаццаць вечара. Калі ўбіцца ў мазырскі аўтобусік, які звычайна чакае на вакзале, то ў Мазыр прыедзеш у дванаццаць. Яшчэ з паўгадзіны трэба брысці па начным горадзе да рэдакцыі.

У чыгуначным гарадку аўтобусіка гэтым разам няма. Карэспандэнт ідзе ў гасцініцу. Яна насупраць вакзала праз вуліцу-шасейку. Змрочны драўляны дом з зачыненымі аканіцамі. Але — на шчасце — ёсць вольныя месцы.

Назаўтра, перш чым рушыць у Мазыр, Васіль снедае ў вакзальным рэстаране. Можа, залішне гучнае слова рэстаран для адгароджанага ад чакальнай залы не надта вялікага зальчыка. Затое тут можна паснедаць, паабедаць і павячэраць.

У Мазыры імкліва цячэ па сярэдзіне вуліцы жоўтая рака. На пагорках, што ўзвышаюцца паабапал вуліцы, растайвае снег, і вада імкліва сцякае ўніз, захопліваючы пясок і гліну. Пагоркі прыкметна палыселі, свецячы праплешынамі рудой леташняй травы.

Наўзбоч тратуара стаяць да непрыемнасці абрэзаныя таполі. Проста псуюць выгляд. Не дрэвы, а нейкія абрубкі, бо галін на іх няма.

Ніхто не заўважыў, што Войцік не быў у рэдакцыі два месяцы. Таму ніхто нічога не пытае.

Па калідоры пахаджвае Войцікаў калега (карэспандэнт па паўднёва-прыпяцкіх раёнах) Захар Бобчанка. На яго безвалосым татарскім твары свеціцца ўсмешка.

— Бяжы ў бухгалтэрыю. Ганарар даюць...

Войцік сябруе з Бобчанкам. Яго сусед іранічна-насмешлівы, на кожным кроку каго-небудзь падкалвае, падпускае шпількі. Гэта ўсё знешняе. Бо Захар зусім бяскрыўдны.

Ганарар Войцік палучае. Затым разносіць па аддзелах напісаныя матэрыялы. На вузкай вітой лесвіцы нос у нос сутыкаецца з аднарукім Жэнем Брахалкам, літсупрацоўнікам. На вайне Жэня не быў: руку страціў па дурасці, развінчваючы гранату.

Брахалка — хлопец несумленны. Амаль у адкрытую жыве з жонкай карэспандэнта рэспубліканскай газеты Тронькі. Тронька — заняпалы, падслепаваты, хоць як журналіст выдатны. Калі Тронька завітвае ў рэдакцыю абласной газеты, Брахалка бяжыць да ягонай жонкі.

— Добра, што цябе ўбачыў! — гудзе Брахалка. — Нашы на флюараграфіі. Я не пайду. Руку мне не прышыюць, лёгкія маю, як кавальскія мяхі. Можа, ты сходзіш?..

Войцік бярэ ў Брахалкі папяровы квадрацік накіравання ў клініку. Пасля плеўрыту варта праверыцца.

У пакойчыку перад кабінетам рэнтгенолага супрацоўнікаў рэдакцыі няма. Паспелі праверыцца. Доктар у белым халаце з белай шапачкай на сівой галаве доўга круціць Войціка перад рэнтгенаўскім апаратам, паварочваючы да яго то грудзьмі, то спіной, то бокам. Адчуванне непрыемнае.

Нарэшце доктар дазваляе пацыенту апрануцца, штосьці доўга малюе на паперцы-квадраціку накіравання.

— Вось што, малады чалавек. Вам трэба паказацца ўрачу. Неадкладна.

Першы, каго сустракае на вуліцы Васіль, аднарукі Брахалка.

— Го! — усклікае ён, зірнуўшы на паперку-квадрацік. — У цябе справа горшая, чым у Гарватоўскага. Суцэльныя плямы...

Дзіўна: Васіль не адчувае ніякага страху.

— Ты ў рэдакцыі нікому нічога не кажы, — просіць ён Брахалку. — Пачнуць мянціць языкамі.

— Мая справа цялячая. Толькі табе ў дыспансер прыйдзецца лажыцца.

— Прыкусі язык! — ужо злосна азываецца Войцік. — Паберажы сілы для бабы, да якой бегаеш...

Брахалка проста палохаецца.

— Ніхто ад мяне нічога не пачуе. Будзь спок...

Васіль углядаецца ў паперку. Ягоныя лёгкія ў буйных і дробных плямках. Правае больш за левае. У правым баку быў плеўрыт.

Калі думаць пра туберкулёз, то Васіль сапраўды не адчувае прыступу грознай хваробы. Не пацее, не кашляе. І крывёю ні разу не харкануў.

Васіль тут жа рве папяровы квадрацік на дробныя кавалачкі. Нікуды ён не пойдзе. Медыкі страх наганяюць. Пакуль не паваліць хвароба, носа нікуды не пакажа...

Над галавой хмурае неба, засланае густымі, шматслойнымі воблакамі. Воблакі паўзуць, рухаюцца і час ад часу між імі вынікае прагал сіняга вясновага неба. Няўжо праз год ці два Васіль не ўбачыць неба, зеляніны, не пачуе птушак, што весела шчабечуць у прадчуванні цёплых дзён? Халодная вужака непакою, трывогі час ад часу ўсё ж падымае галаву ў Васілёвай душы.

З пошты, грукаючы кірзавымі ботамі па бруку, выдыбае Захар Бобчанка. Васіль ведае: Захар адаслаў ганарар жонцы. Тэлеграфным пераводам. У яго сямёра дзяцей, якія патрабуюць харчу, таму карэспандэнт грошы ніколі пры сабе не трымае.

— Пойдзем піва вып'ем, — гаворыць Захар.

У ларках піва халоднае, таму карэспандэнты кіруюць у харчэўню, размешчаную на беразе Прыпяці. Там можна і паабедаць.

Піва ў Мазыры харошае. Заводу, які яго вырабляе, ці не сто гадоў. Ёсць традыцыя, вопыт.

Балявацъ дык балявацъ. Дружбакі бяруць па сто пяцьдзесят грамаў гарэлкі і па два кухлі піва. Варта адзначыць сустрэчу пасля адмены картачнай сістэмы. Тым болей, што карэспандэнтам трохі зарплаты прыбавілі.

— Паглядзі мае матэрыялы, — просіць Бобчанка.

Бобчанка, хоць карэспандэнт даваенны, піша кепска. Кожны ягоны матэрыял трэба правіць. Васіль у час такіх вось сустрэч памагае таварышу. Але цяпер у яго другі клопат.

— Заўтра пагляджу. Сёння ты мне памажы, Захар. Кладзіся спаць у аддзеле пісем. Гадзін у дзесяць я пастукаю ў шыбу. Адкрыеш дзверы. Трэба, каб вартаўнік не чуў і не бачыў. І наогул пабудзеш на варце...

— Ясна, — гаворыць Бобчанка. — Будзе зроблена. Толькі за гэта трэба яшчэ трохі выпіць...

Пасля візіту ў кабінет рэнтгенолага да Васіля прыходзіць простая і ясная, як дзень, думка. Два гады ён ходзіць з Гэляй, яна сама прызналася, што была замужам, а ён да яе падступіцца баіцца. Што яна пра яго думае?..

Гэля самотная, маўклівая. Ён заходзіць да яе на кватэру, запрашае павандраваць па горадзе. Яна згаджаецца. Ідуць да падобнага на карабок запалак будынка рэдакцыі. Васіль ціха стукае ў апошняе з краю акно, Захар на месцы. Дзверы праз хвіліну адчыняюцца. Чуваць, як у бакоўцы пад лесвіцай храпе глухаваты вартаўнік.

Падымаюцца на другі паверх. Падтрымліваючы за руку, Васіль вядзе па вузкай вінтавой лесвіцы Гэлю.

Ён сам не думаў, што ўсё будзе так звычайна і проста.

У рэдактарскім кабінеце Васіль святло не запальвае. Насупраць пакоя ўзвышаецца слуп з электрычным ліхтаром. У пакоі светлы паўзмрок. Тахкае гадзіннік у драўлянай каробцы. Цяпер Васіль яго не спыняе.

Усё здараецца імгненна. Гэля пакорлівая, як дзіця. Дазваляе сябе абнімаць, цалаваць. Упершыню Васіль бачыць яе буйнае, асабліва ў сцёгнах цела. Усё ў Гэлі падабаецца Васілю. Яна жанчына ягонай мары...

Па гулкім пустым горадзе Васіль праводзіць Гэлю дамоў. Патрэсквае пад нагамі тонкі лядок. Яны раз-пораз спыняюцца, не баючыся, што хто-небудзь убачыць, цалуюцца. Так да самага Гэлінага дома. Душа ў Васіля спявае...

У рэдакцыю ён вяртаецца перапоўнены шчасцем. Такая выдатная жанчына яго любіць. Два гады ён займаў яе пустымі размовамі. А яна ж замужам была. Таго далёкага невядомага мужчыну, Гэлінага мужа, Васіль у разлік не бярэ. Ён яго не бачыў. Гэля ведала, што загінулі бацькі. Адзінокай, самотнай ёй была патрэбна хоць якая-небудзь падтрымка.

Захар на варце. Зноў адчыняе дзверы. Пра тое, што нядаўна адбылося, маўчыць. Малайчына Захар...

Васіль не спяшаецца выбірацца з Мазыра. Ён цяпер пад Гэлінай уладай. Неадольна цягне яго да сябе вялікае, гарачае Гэліна цела, яна ўся — падатлівая, блізкая. Але дзе сустрэцца? У рэдакцыі нельга. Ёсць штосьці абразлівае ў тым, як ён, нібы злодзей, вёў Гэлю ў кабінет рэдактара.

Нарэшце Войцік успамінае пра карэспандэнта Троньку. Таго самага, да жонкі якога валэндаецца дужы, аднарукі абібок Брахалка (пад матэрыяламі ён падпісваецца "Пятроўскі"). Васіль звоніць карэспандэнту дамоў.

— Хачу бачыць цябе, Валодзя.

— Прыйсці ў рэдакцыю?

— Лепей у парк. Я буду чакаць каля ўваходу.

Тронька з'яўляецца хутка.

— Дай мне сваё пасведчанне, Валодзя.

— Навошта?

— Хачу палучыць пакой у гасцініцы.

— Так не атрымаецца. Мяне ведаюць. Дый мая абразіна на тваю не падобна.

Тым часам Тронька выйсце знаходзіць. Заходзяць у першы дамок, дзе ёсць тэлефон. Тут размяшчаецца кантора нейкай арцелі. Тронька просіць дазволу пазваніць.

— Ты, Ліхачоў? Пазнаў мяне? Прывітанне ад нашага рэдактара. Тут мы з карэспандэнтам абласной газеты Войцікам робім матэрыял. Яму няма дзе жыць. Дай яму пакой у інтэрнаце. Асобны. Бо пісаць будзем разам: спрачацца, гарланіць...

Калі выходзяць з канторы, Тронька заяўляе:

— Усё ў парадку. Ідзі ў інтэрнат. Дамоўленасць жалезная...

Інтэрнат трэста будаўнікоў на горцы, насупраць драўлянага часовага моста праз Прыпяць.

Пакоік у інтэрнаце на трэцім паверсе. Светлы, чысты, абклеены блакітнымі шпалерамі. І выгляд з вакна прывабны. Шырокая стужка яшчэ заледзянелай, з цёмнымі прамоінамі Прыпяці, аснежаныя зарэчныя далі, далёкая цёмна-сіняя стужка лесу.

Ужо вечар наступае. Войцік звоніць Гэлі. На службу. Дамаўляецца аб сустрэчы. У парку.

Ён завітвае ў два-тры магазіны, сёе-тое набывае. Брызентавая лейтэнанцкая сумка вельмі прыдатная для тых рэчаў, якія ён купляе.

Гэля вясёлая. Нават як бы ўзбуджаная.

— Не паехаў? Воўк у лесе здох. Павядзеш мяне ў рэдакцыю?

— Прабач за рэдакцыю. Добра не падумаў. Цяпер маю пакой.

Зусім згушчаецца сінеча адвячорка. Яны ідуць па Верхняй набярэжнай вуліцы, затым па гарбатым, замошчаным дзікім каменем правулку, які вядзе на гару. Тут дамкі, хаціны бадай што вясковага выгляду, але з прыбітымі белымі талеркамі адрасоў. У снезе разгалістыя, з цёмным суччам яблыні, грушы. У адным месцы нават тры стройныя бярозы стаяць.

Нарэшце перад вачамі вырастае квадратная чатырохпавярховая каробка інтэрната.

Пакойчык Гэлі падабаецца. Але ў іх на дваіх дзве бутэлькі віна і толькі адна гранёная шклянка.

— Як будзем піць? — пытае Васіль.

У Гэліных вачах вясёлыя чорцікі.

— Як на ганку школы пілі. Памятаеш? З рыльца бутэлькі...

Васіль налівае паўшклянкі віна.

— З рыльца буду піць я. Ты — як у прыстойных кампаніях... Са шклянкі...

На закуску — цукеркі, парэзаны на лісткі галандскі сыр.

Гэля выпівае сваю паўшклянку.

— Хачу напіцца, — заяўляе.

— Цікава пабачыць цябе п'янай.

(Працяг на стар.12)

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ХТО ШУКАЕ — ТОЙ ЗНАХОДЗІЦЬ...

**У правільнасці гэтай прымаўкі лішні раз пераконваешся, калі знаёмішся з выстаўкай твораў Ілоны Барадулінай, што адкрыта ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Ілона — чалавек у творчым асяроддзі ўжо вядомы. І не толькі таму, што яна з'яўляецца дачкой народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Сцвердзіць уласнае мастакоўскае "я" яна паспела сваімі творамі.**

**А яны — досыць арыгінальныя. Складанае перапляценне розных фігур дазваляе Ілоне па-свойму адметна раскрыць і перадаць складанасць нашага свету. Творы не выклікаюць роздум, прымушаюць працаваць душу. Яна ўся ў пошуку, і пошук гэты скіраваны на тое, каб, адштурхнуўшыся ад звыклага, дайсці да таго, што, магчыма, і не адразу зразумела, але тым не менш нясе ў сабе важкі змест.**

**На адкрыцці выстаўкі добрае слова пра творчасць І. Барадулінай сказалі вядомыя мастацтвазнаўцы Б. Крэпак і Я. Шунейка. Радасцю ад судакранання з яе творамі падзяліліся таксама мастак Р. Сітніца, скульптар У. Крываблоцкі, паэт Л. Дранько-Майсюк, літаратуразнаўца Т. Голуб...**

**Зрэшты, чытачу лепш самому наведаць выставу, успомніўшы другую, не менш вядомую і дакладную прымаўку: "Лепш адзін раз убачыць, чым дзесяць раз пачуць".**

**Н. К.**

## І ДЛЯ ЧЫТАННЯ, І ДЛЯ ПАСТАНОЎКІ

**Нямала робіць дзеля прапаганды лепшых твораў драматургіі часопіс "Тэатральная творчасць". У кожным нумары, як правіла, змяшчаецца адна, а то і дзве (і нават тры, калі аднаактовыя) п'есы. Акрамя таго, дзякуючы "ТБ" і пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, а калі канкрэтней, дык яго Рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі, распачаты выпуск альманаха "Беларуская драматургія". У 1994 годзе ў выдавецтве "Навука і тэхніка" пабачыў свет яго першы выпуск. І вось у той жа "Навуцы і тэхніцы" выйшаў чарговы зборнік.**

**Ён складаецца з двух раздзелаў. Першы — "П'есы сучасных аўтараў" — знаёміць з лепшымі творамі, якія напісаны нядаўна і сведчаць аб тым, што жанр драматургіі па-ранейшаму знаходзіцца ў полі зроку аўтараў, у тым ліку і маладых.**

**У прыватнасці, упершыню ў друку выступае Юрый Кулік. Ён скончыў акцёрскае аддзяленне тэатральна-мастацкага інстытута, працаваў у тэатры імя Якуба Коласа, а пасля заявіў пра сябе як пра драматурга. П'еса "Ноч на Івана Купалу" моцная фальклорнымі матывамі і разам з тым сведчыць аб плённасці пошукаў аўтара.**

**Яшчэ досыць малады ўзростам Сяргей Кавалёў, ды пісьменнік ён ужо сталы — вядомы і як паэт, і дзіцячы пісьменнік, і як крытык. У галіне ж драматургіі звычайна для сваіх твораў выкарыстоўвае матывы іншых аўтараў. У гэтым пераконвае і п'еса "Трышчан, або Блазны на пахаванні", у аснову якой пакладзены беларускі варыянт вядомай легенды пра Трыстана і Ізольду (у п'есе яны сталі Трышчанам і Іжорай).**

**Іван Стадольнік выступае з камедыяй-фарсам "Залатое вяселле", больш вядомы як празаік. Самы малады аўтар альманаха — Мікалай Рудкоўскі, які заканчвае Беларускі універсітэт культуры (п'еса "Жанчыны Бергмана").**

**У другім раздзеле "Творы са спадчыны" прадстаўлена некалі шырокавядомая камедыя Рыгора Кобеца "На заставе" (публікацыя Алены Кобец-Філімонавай). Як сведчыць аўтар прадмовы да зборніка Анатоль Сабалеўскі, гэты твор "напісаны па-майстэрску, з камедыйным бляскам. Большасць роляў вельмі яркія, як кажуць старыя тэатралы, "кулявыя", адно пакладзі на суфлёрскую будку — і самі зайграюць".**

**Дарэчы, як удакладняе ў канцы ўступу А. Сабалеўскі, "увогуле ж усе драматычныя творы, якія тут прапануюцца, розлічаны як на чытача, так і для пастаноўкі на тэатральных падмостках".**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

***Яны здымаліся чатыры гады — фільмы тэлевізійнай трылогіі, вылучанай на Дзяржаўную прэмію Беларусі. "Прыйдзі і віждзь" трапіў на тэлеэкраны ўжо ў 1993. "Пастка для зубра. Ягайла" быў скончаны праз год. Яшчэ праз год, у 1995, разам з "Пасткай для зубра. Вітаўтам" напаткаў перш-наперш перапоўненую актавую залу Дома літаратара. Кажуць, што папулярны Пазняк ледзь убіўся туды на прагляд. Цяжка было даць веры хіба аднаму: няўжо гэтая ўзнёслая гісторыя Княства Літоўскага, што глядзелася на адным подыху, здымалася доўга, цяжка, марудна... безграшова? Зусім не таму, што кепска падрыхтаваліся да здымак. Фільм час-почас вымагаў то змены часоў года, то немалую колькасць коней у кадры, то марскога берага, то адметнага пажару... Дзяржава не пацягнула б такую карціну. Тым больш — тры. Натуральна, маім першым пытаннем да рэжысёра-пастаноўшчыка Віктара ШАВЯЛЕВІЧА было:***

# "ДОМА НАШ ПОСПЕХ ЛЕДЗЬ ЗАЎВАЖНЫ"

**— А чаму?**

— Мецэнаты давалі нам грошы... проста. Ведаючы, што ні рубля назад не вернуць. У імя... праўдзівай гісторыі, уявіце. Не агульнавядомай гістарычнай праўды, — мы на яе, як на палітыку, не замахваліся. Наша гісторыя — гэта нешта рамантызаванае. Людзей, якія далі б на рамантыку ды ўзнёсласць грошы, у Беларусі знайсці ўсё больш складана. Мы прыпынялі здымкі, збіралі грошы, тлумачылі... Якая б дзяржава вытрымала нашы дзіўныя справаздачы? За два эпізоды да фіналу спыніліся на шэсць месяцаў. Скончыліся грошы ў нашага прадпрымальніка з Цюмені (ён паходжаннем беларус). Звярталіся да "Дайновы". Для мяне, рэжысёра, гэтак скрутна працаваць — складана. Акцёрам складана вяртацца ў той настрой ды тыя эпізоды.

**— Як рэжысёр дужа патрабавальны, як вы ацэньваеце працу выканаўцаў, пачаткоўцаў ды маладзёнаў па-бальшыні?**

— Рэч у тым, што я ў іх... закаханы... Яны яшчэ студэнтамі былі, а трылогію ўжо бралі ў работу. Вырашылі: будзем усё будаваць на тыпажах. Амаль увесь курс Андрэя Андросіка (вядомы курс, чые гадаванцы цяпер мацуюць Альтэрнатыўны тэатр), да якіх потым далучыліся яшчэ маладзейшыя... Я ўбачыў іх дыпломны спектакль "Гуляем у Шэкспіра" і нават крыху працытаваў яго ў фільме.

**— Вы ўжылі нязвыклы для нашага кіно метад працы з акцёрамі.**

— Але. Так няшмат хто працуе. Я люблю псіхалагічнае кіно, умею яго здымаць. Але мне больш даспадобы тая стылістыка, у якой мы здымалі наша кіно. Там для акцёраў ёсць адно правіла. Яно ўсім вельмі падабаецца, з-за яго яны ахвотна працуюць: акцёр ніколі не ведае да канца сваёй ролі. Такая наша гульня. Інакш акцёр ужо ў першых эпізодах на пляцоўцы сыграе вынік. Мне ж важна паказаць, як ён да гэтага выніку дайшоў. Тэатральныя спосабы непрымальныя. Прымальны той спосаб, якім Таркоўскі зняў "Люстра": Цярахава сёння не ведала, што будзе рабіць заўтра. Вось і я... падманваў, бянтэжыў, палохаў, здзіўляў, дражніў... Канчатковы вынік здымак толькі я ведаю. І трымаю пры сабе. Так даспадобы і мастаку фільма, і аператару, яны шторазу з цікавасцю ўсё распачыналі нанова. Таму і вялікія перапынкі ў здымках не паўплывалі на якасць карцін. Бо пра вынік, паўтараю, ведаў толькі я, а ўжо сябе самога я здужаў датрымаць да фіналу. Уявіце толькі: прыходзяць абазнаны прафесійны артыст, а мы яму тлумачым, што ўсім умеennем, назапашаным на іншых здымках, трэба ахвяраваць. Наш вынік, безумоўна, залежаў ад таго, наколькі дакладна па сваіх складах (асабліва эмацыйных) будуць акцёры блізкія да сваіх персанажаў. Наколькі Ягайла, скажам, знойдзецца ў Мікалаі Кірычэнку, — той Ягайла, які ад выгляду жаночай рукі мог страціць свядомасць ці, не раздумаўшы й хвіліны, загадаць чалавека забіць. Кірычэнка — гэтак жа рухомы эмацыйна. Або Вітаўт, які ўвесь час мітусіцца між сумленнем ды ўчынкам, — рыхтык Жэня Жураўкін. І Магістр, падступліва-абаяльны — Юры Паплёўка... Мы рабілі касцюмаваны вобразны фільм. І варта было пільнаваць усё, што адбывалася на пляцоўцы. А там педагог курса Андросіка Кірычэнка — у атуленні сваіх вучняў. Там Магістр-Паплёўка кажа яму, свайму настаўніку, знанаму купалаўскаму артысту, "Ты малады, Ягайла, гарачы й неразумны ты..." У нас на пляцоўцы бы не ўбачылі б працоўнага подзвігу, бо ўсе... гулялі, радаваліся.

**— Дарэчы. Заўлёная ад пачатку фільма гульня ў тэатр (маладыя людзі на вачах пераапранаюцца са сваіх сучасных строяў у гістарычныя) дазволіла не шываваць над складаным грымам, не дбаць пра партрэтную адпаведнасць. Усе ж сябе саміх ведаюць... На сцэне такое абыходжанне са спосабам існавання называецца "тэатр у тэатры", а ў кіно?**

— Я не ведаю. Я прыхільнік нават і не Пірандэла, калі звяртацца па тэатральныя прыклады. А — патронага Пірандэла. Тэатр у тэатры пра тэатр...

**— Не думала, што ў гістарычным фільме можна абысціся без доказнай, пазнавальнай натуры. Без віленскіх краявідаў, замкаў, брукаванак. А вы здымалі ў разбураным Ружанскім замку-палацы. І нічога больш моцнага па вобразным уздзеянні я не памятаю ў нашым кіно.**

— Ружанскі замак: сцены яшчэ цэлыя, усярэдзіне пустка, глеба й трава, пустазелле — такім я бачу цяпер маю Беларусь. Я не эканаміст. Я не ведаю пра грашовыя ды вытворчыя перспектывы. Але духоўна Беларусь цяпер такая: пабітая, патаптаная. Толькі былі распачалі неяк рапараваць — ізноў кінулі. Для мяне разбураны Ружанскі замак як вобраз быў такім самым прынцыповым, як у мінулым фільме — Мірскі замак. Не толькі таму, што ў яго выдатная фактура. У нашым першым фільме ("Прыйдзі і віждзь" — **Ж. Л.**) мільганула Ядвіся на тле Тракайскага замка — як вобраз чагосьці польскага, трывалага ў параўнанні з неўладкаваным Княствам. Знайшлі б мы грошы на Тракай. І ў далейшым уся прырода, натура падбіралася толькі з улікам гэтага асяродку. Вельмі важна: Белавежская пушча як прыродны вобраз, бо яшчэ — неруш, некрануты Браслаў — вобразная перспектыва і касцюмы яму адпавядаюць. Гэта было задумана ад пачатку. Я адчуваў, што так трэба: разарванае неба і змрок, што паступова збіраецца над Ружанамі перад пажарам... Усё вычэквалася, выглядалася, рыхтавалася. На жаль, сам вобраз не выпадала давесці, як задумалі: замак мусіў быў засыпаць снег. Белы, вядома. Пасля сваёй смерці там мусіў з'явіцца Вітаўт. На бялюсенькай зямлі...

**— Але перш як звярнуцца да апаэтызаванае хронікі, вы давалі экспазіцыю — з філасофскім тэкстам, кроплямі, бурштынам, выдмамі, выспамі, хвалямі...**

— Намагаліся адшукаць мікра- ды макракосмас. Мы з Тарасавым (Сяргей Тарасаў — сцэнарыст карцін. — **Ж. Л.**) працуем... паводле класічных мастацкіх законаў. Балазе, вувычылі адзін анаго. Сяргей піша падставу для сцэнара. Я яго пераасэнсоўваю. Ён разумее. Дапамагае. Раней пісалі разам, цяпер адмовіліся. Не разам — цікавей. Бывае, падпарадкуемся нечаканаму (ці чаканаму) развіццю ролі. Дапісваем. Даздымаем. Паводле класічных мастацкіх законаў... гульні. Бо і самі Ружаны — гэта ж — тэатр! Куды на конях уязджалі. Дзе ў сажалцы караблі плавалі! Мы ж маглі ўсё здымаць у Крыме. Дзі інтуітыўна, напэўна, з Тарасавым вырашылі — у Ружанах. Адным словам, рабілі амаль тое, што Сапегі. Толькі ў тых больш грошай было. Дый жа і мы не бедныя, калі меч Вітаўта маглі заказаць у самога Асташонка або Будзіновіча. У фільме ж зброя сапраўдная, і строі не паркалёвыя. На гэта ніхто грошай не шкадаваў. Асабліва — мецэнаты. Яны дапамаглі нам эканамічна прадумаць усё, кансультавалі дырэктару карціны адзін з іх напісаў у пятнаццаці пунктах. Пункт першы быў: купіце сабе калькулятар. Потым — як карыстацца валютай, у якія дні тыдня мяняць даляры на рублі, як пільнавацца курсу і да т.п. Пункт пятнаццаты: грошай вам выстачаць. Дырэктар карціны выканала толькі першы пункт. Калі мецэнат прымаў справаздачу, дык мовіў: "Яна ці дурніца, ці страшэнны хлус. Але, мяркую, усё-такі дурніца. І добра, цябе не падманвае".

**— А як рэагавалі на такія здымачныя багацці акцёры?**

— Разумелі. Жураўкін, напрыклад, саромеўся папрасіць у дырэктара каціны аванс. І калі здарылася нявыкрутка, і мы збіралі яму грошы каб да Мінска даехаць, на спектакль паспець, ды згадалі пра гэты аванс, Жэня адказаў... Маўляў, няўжо за задавальненне яшчэ трэба і плаціць? Мала таго. Усе акцёры гатовы прыйсці на наступную карціну і працаваць бясплатна. Юра Паплёўка, а ў яго цяпер свая невялікая справа, знайшоў грошы на адметную плёнку, каб зрабіць адметную копію. Самае цяжкое для людзей было працаваць доўгі час зусім без грошай, без заробкаў ды з перапынкамі. У кожнага ж — сем'і, дзеці, клопат. Ніхто не здрадзіў. Цяпер жа групы развальваюцца направа ды налева! Былі моманты, калі кожнаму прапаноўвалі выгодную грашовую працу. Нас праверылі папярэднія карціны; мецэнаты давяраюць, бо ніколі не ўбіваемся ў палітыку ды ідэалогію.



І людзі — вераць. На першую карціну (1993) станцыя юных турыстаў з Наваполацка прыслала нам 110 рублёў. Пенсіянеры высылалі па 10, 15, 100 рублёў: людзі так літаральна зразумелі і блізка прынялі нашы грашовыя нястачы. Тысячаў пяць пераявілі на бухгалтэрыю Дзяржтэлерадыё. А людзі з масоўкі казалі проста: у вас там баран смажыцца? — Але, смажыцца, беражоны, каб восем разоў зняць. — Во мы з ім гарбаткі пап'ем... І ў разліку. А нашы збройнікі? Адметныя нажы, корды, кісцяні?! Гэта — братоў Глушковых, Ігара Пажэнькі, Дзімы Белашэнкі... Новым чалавекам на карціне была толькі мастачка Аня Балаш. Пра яе мы, напэўна, марылі ўсё жыццё. Божым падарункам аказаўся аператар Уладзімір Васінеўскі (ВГІКаўская школа, украінская майстэрня!). На Ларысу Сімаковіч трэба проста маліцца — як напісала музыку, як выканала, як спела...

**— Якраз — мастачка, кампазітар, аператар і вы — чацвёра вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Ці толькі межамі Беларусі вызначыцца вядомасць вашай трылогіі?**

— Былі ўжо паказы ў Блакітнай зале "Камсамолкі", у Санкт-Пецярбурзе. А ёсць адна бяда, для мяне пакуль невытлумачальная. Варта паказаць дзесьці па-за межамі Беларусі, дык узнікне і вядомасць, і ацэнкі. Дома наш поспех ледзь заўважны. І ў мяне — простая злая ўпартасць: рабіць для сябе ды ў сябе. Ўсць у фільме эпізод: Усяслаў стаіць у роздуме перад бойкай з палякамі. Бачыцца яму вобраз... У Мазыры на абмеркаванні з нафтавікамі прагучала: маўляў, мяркуючы па ўсім, гэта ягоная маці. Але чаму яна такая маладая? (Ролю выконвала чатырнаццацігадовая дзяўчынка ў складанай пластычнай кампазіцыі.) Падымаецца іншы выступовец і давodзіць: у памяці маці заўжды маладая. Так два нафтавікі трапна і сур'ёзна ператалмачылі — разабралі між сабою складаныя полiпланавы вобраз... Трэці нафтавік, падсумоўваючы, мовіў: "І я разбяруся, не трэба тлумачыць. І з сонцам, і са змеем, і з князем..." Для мяне гэта даражэй за прыз Канскага фестывалю.

**Гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея МАЦЮША*

*На здымку: акцёр Мікалай Кірычэнка падчас здымак.*

P.S. Водгукі на тэлетрылогію будуць змешчаны ў бліжэйшых нумарах "ЛіМа".

Музыка

# ЯНА БЫЛА "ЗОРКАЙ"

## ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ НАРОДНАЙ АРТЫСТКІ БЕЛАРУСІ РЫТЫ МЛОДАК

Заняткі ў мінскай гімназіі амаль заўсёды пачыналіся са спеваў. Настаўнікі, вучні з асалодай слухалі чароўны голас юнай абаяльнай дзяўчынкі. Яны быццам бы прадчувалі, што ў будучым іх любіміца стане славутай спявачкай.

Так пачыналася пеўчая біяграфія беларускай опернай зоркі Рыты Млодак.

Ужо больш як чвэрць стагоддзя яе няма з намі. Але колішнія паклоннікі таленту выдатнай спявачкі не могуць забыць яе выступленні на сцэне, па радыё. Усе, хто слухаў яе, адзначалі, як гэты непаўторны голас, у залежнасці ад ствараемага актрысай опернага вобраза, набываў адмысловую афарбоўку.

Нарадзілася яна ў Мінску.

*— Маці была ў сям'і старэйшай, а ўсяго ў яе бацькоў было чацвёра дзяцей, — расказвае дачка Рыты Млодак Валянціна Ільінічна. — На жаль, я не ведала ні дзядулі, ні бабулі ці з боку маці ці бацькі. Толькі знаю, што бацька мамін працаваў пажарнікам. Бабуля памерла ва ўзросце 37 гадоў.*

*Вельмі цікавай асобай быў мой бацька Ілля Маркавіч Млодак. Хлопчыкам ён перабег польскую мяжу, апынуўся тут. Дарэчы, у яго нельга было не закахацца. Ён быў вясёлым, дасціпным чалавекам, цудоўным апавядальнікам, душой кампаніі, Амаль усё жыццё ён меў поспех у жанчын. У гэтым пераканалася і яго жонка: калі яны разам ездзілі на курорт, жанчыны літаральна не спускалі з яго поглядаў. Некалі ж закахалася ў яго і 17-гадовая Рыта, выйшла замуж, нягледзячы на тое, што яе бацькі былі супраць...*

Ілля Млодак працаваў настаўнікам, потым у міліцыі — то ў Мінску, то ў Віцебску, то ў Гомелі, дайшоў да намесніка начальніка крымінальнага вышуку Беларусі. Сям'я вандравала разам з ім. Некаторы час працавала ў міліцыі і яго ная жонка Рыта.

Неяк яна паспяхова выступіла на святочным вечары. Яе цудоўны голас спадабаўся слухачам. З таго часу пачала ўдзельнічаць у мастацкай самадзейнасці. Маладая спявачка вучылася у Гомельскім, Віцебскім музычных вучылішчах. З часам голас яе памацнеў, пашыраўся дыяпазон. Спачатку здавалася, што гэта меццасапрана. Пазней яно перарасло ў прыгожае аксамітнае лірыка-драматычнае сапрана. Рыта пранікнёна выконвала творы Даргамыжскага, Шуберта, Шумана, італьянскіх кампазітараў і нават партыю Аіды з аднайменнай оперы Д. Вердзі, што вымагала ад выканаўцы моцных вакальных дадзеных, драматычнага таленту.

Калі сям'я пераехала ў Мінск, Рыту Веніямінаўну прынялі салісткай ў оперную студыю. Добрую школу вакальнага майстэрства, працы над опернымі партыямі атрымала яна ў вядомага спевака Антона Баначыча. Калі ж у 1933-м адкрыўся Беларускі тэатр оперы і балета, Рыта Млодак стала яго салісткай.

*— Мая маці ніколі не распявалася, — успамінае Валянціна Ільінічна, — у адрозненне, напрыклад, ад вядомай спявачкі Веры Мальковай, з якой мы жылі па суседстве, дзякуючы чаму я часта слухала, як сур'ёзна, карпатліва практыкавалася, распявалася Вера Міхайлаўна. Думаю, голас Рыты Веніямінаўны, прыгожы ад прыроды, нават не меў патрэбы ў шліфоўцы і заўсёды гучаў плаўна, мякка.*

І ўсё ж спявачка Млодак амаль ніколі не была задаволеная сваім выкананнем, старалася ўдасканальвацца, шмат працавала над сабой. Яна спецыяльна ездзіла ў Маскву браць урокі ў славутай вакалісткі прафесара Маскоўскай кансерваторыі імя П. Чайкоўскага, сястры вядомай артысткі Валерыі Барсавай — Марыі Уладзіміравай. Гэтыя ўрокі, вядома ж, дапамагалі беларускай спявачцы. І адыгралі сваю ролю — на працягу ўсёй творчай кар'еры, незалежна ад узросту, яе голас гучаў па-маладому прыгожа, ярка. І хаця ў Рыты Веніямінаўны не было дыплома аб вышэйшай музычнай адукацыі, фактычна яна ведала ўсе сакрэты вакальнага майстэрства. Была прафесіяналам сваёй справы. Адразу, як стала салісткай мінскай оперы, ёй даверылі спяваць вядучыя партыі.

Старэйшыя аматары беларускага опернага мастацтва памятаюць Рыту Млодак у яе першай партыі — Тацціяны з оперы П. Чайкоўскага "Яўгеній Анегін".

Мне запомнілася яе сціплая рамантычная Таццяна. Усе лепшыя якасці сваёй гераіні — душэўнасць, мяккасць, жаноцкасць, абаяльнасць, рамантычнасць, лірычнасць — Рыта Веніямінаўна імкнулася перадаць сваім прыгожым непаўторным голасам. Наогул, оперы П. Чайкоўскага займалі асобнае месца ў творчасці Рыты Млодак. Акрамя Таццяны, яна стварыла яркія, прывабныя вобразы Марыі з "Мазепы", Аксаны з "Чаравічак". Адным з лепшых яе оперных вобразаў можна назваць Лізу ў "Пікавай даме". У гэтай оперы Рыце Веніямінаўне ўдалося стварыць вельмі хвалюючы вобраз. Проста, стрымана, вельмі тонка артыстка здолела перадаць унутраны свет Лізы, яе псіхалагічны стан. Лірызм, драматызм, трагічнасць гэтай жанчыны Рыта Млодак асабліва праявіла ў сцэне ля Канаўкі. Яна не мітусілася, але была трапяткой, хвалюючай. Цудоўны моцны голас спявачкі гучаў прыгожа, аб'ёмна ў партыі Чыо-Чыо-сан у оперы Д. Пучыні. Тут выявіліся і ўсе лепшыя якасці актрысы.

Памятаю і яе пяшчотную, сціплую, безабаронную закаханую Мікаэлу ў "Кармэн". Яркія запамінальныя вобразы стварыла артыстка ў операх беларускіх кампазітараў — Марысі ("Міхась Падгорны" Я. Цікоцкага), Надзеі ("Кветка шчасця" А. Туранкова), Аўгінні ("У пушчах Палесся" А. Багатырова).

*— Мне неаднаразова даводзілася выступаць разам з Рытай Млодак, — успамінае вядомая оперная спявачка Лідзія Галушкіна. — У "Яўгеніі Анегіне" я — Вольга, яна — Таццяна. У "Пікавай даме" я — Паліна, яна — Ліза. Дарэчы, гэтая партыя вельмі пасавала Рыце Веніямінаўне — мяккай, мілай, добрай, пяшчотнай жанчыне. Стварыць запамінальны вобраз, бязумоўна, дапамагалі багатыя вакальныя здольнасці.*

*Слухачы настолькі былі зачараваныя цудоўным голасам Рыты Млодак, што нават не адчувалі, колькі ёй гадоў. Паклоннікі яе таленту называлі спявачку вакалісткай вышэйшага пілатажу...*

Выдатная беларуская спявачка Тамара Ніжнікава ўспамінае ўражанні ад спектакля "Прададзеная нявеста" Б. Сметаны, дзе вельмі таленавіта выступіла Рыта Млодак. Яе партнёрам быў уладальнік прыгожага тэнару Ісідар Балоцін, які выконваў ролю Вашака. "Здаецца, я і зараз чую гэты прыгожы дуэт, — зазначае Тамара Мікалаеўна, — так выразна ён гучаў".

Пазней яна чула натхнёнае выкананне Рытай Млодак рамансаў П. Чайкоўскага, С. Рахманінава.

Дарэчы, пра надзвычай прыгожы голас Рыты Веніямінаўны Тамара Ніжнікава даведалася яшчэ ў Маскве, калі вучылася ў кансерваторыі. Тады асабліва натхнёна гаварыла пра вакальныя здольнасці Рыты Млодак яе педагог Марыя Уладзімірава, якая сама непасрэдна займалася з беларускай спявачкай.



*Народная артыстка Беларусі Рыта МЛОДАК.*



*Гераіня оперы "Мазепа" — Марыя.*



*У спектаклі "Чыо-Чыо-сан".*

*— Я фактычна была ў яе падшэфнай, калі маладой спявачкай прыехала працаваць у Мінск, — прыгадвае Т. Ніжнікава. — Яна заўсёды ставілася да мяне па-мацярынску цёпла, сардэчна, апекавалася мною. Да сённяшняга дня хваляе шчыры надпіс, які пакінула Рыта Веніямінаўна на падараваным мне сваім здымку, дзе яна сфатаграфаваная ў ролі Лізы з оперы "Пікавая дама".*

Т. Ніжнікава вельмі ўдзячная Рыце Веніямінаўне за цеплыню, дабрыню, шчырасць, за тое, што ў пачатку яе тэатральнага шляху Рыта Веніямінаўна адчула ў ёй спявачку.

Рыта Млодак атрымала званне народнай артысткі адразу пасля Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве 1940 года, хаця да гэтага ўвогуле ніякага звання не мела.

За дзень да пачатку Вялікай Айчыннай Рыта Млодак паехала ў Маскву. Ды так і не вярнулася ў Мінск да яе заканчэння. У той нялёгкі для роднай краіны час Рыта Веніямінаўна аддала ўсе свае збераженні Чырвонай Арміі.

У час вайны яна разам з Беларускім тэатрам оперы і балета выступала ў Горкім, Каўрове. Яна ўдзельнічала ў франтавой артыстычнай брыгадзе. Спявачцы даводзілася выступаць на перадавой, у шпіталях, часам рызыкуючы сваім жыццём.

Некаторы час Рыта Веніямінаўна выступала на сцэне Ленінградскага опернага тэатра імя С. Кірава. І тут было нямала паклоннікаў яе таленту. Спявачцы прапанавалі пайсці на праслухоўванне з мэтай прыёму ў славуты Кіраўскі. Але яна ўжо вырашыла свой лёс: "Я народная артыстка Беларусі і ні на якое праслухоўванне не пайду".

Пагалоўныя арышты закранулі ў свой час і сям'ю Млодак. У 1938 годзе быў арыштаваны муж Рыты Веніямінаўны. Ён прасядзеў у турме восем гадоў. Калі пачалася вайна, прасіўся на фронт... Здавалася, што ўсе пакуты нарэшце ў мінулым, ён вярнуўся дадому, быў рэабілітаваны. Але выйшаў указ, які забараняў яму жыць у Мінску. Потым зноў — арышт, высылка на вольнае пасяленне ў Сібір. Пасля толькі сем гадоў Ілля Маркавіч пражыў з сям'ёй. Памёр у 1963-м.

На шэсць гадоў перажыла свайго мужа Рыта Веніямінаўна. Закончыўшы сваю сцэнічную кар'еру, яна нейкі час выкладала вакал...

Калісьці Заір Азгур зрабіў бюст Р. Млодак і падараваў яго спявачцы. На думку яе дачкі, Азгуру ўдалося стварыць запамінальны вобраз артысткі. Зараз гэты бюст устаноўлены на Усходніх могілках, дзе пахавана Рыта Веніямінаўна.

Можна, на жаль, сказаць, што сёння Р. Млодак, слынную беларускую артыстку, рэдка ўспамінаюць. На доме N 43 па праспекце Скарыны ў Мінску, дзе больш за дваццаць гадоў жыла яна, так і не ўстанавілі мемарыяльную дошку. А яна ж, Рыта Млодак, была беларускай опернай "зоркай" першай велічыні.

**Вера КРОЗ**

# ГІСТОРЫІ Ў ІМПРАВІЗАЦЫЯХ

Нашы тэатральныя рэжысёры ўсё часцей пішуць п'есы. "Ах, мой мілы Андэрсен!.." — п'еса ў Алега Жугжды не першая. Але — увасобленая. Ужо. На пачатку лютага спектакль "Прыгоды Алавянага Жаўнерыка, Пастушкі ды Камінара" прадставіў Дзяржаўны тэатр лялек Беларусі ў рэжысуры... Алега Жугжды. Мастак — Валерый Рачкоўскі. Кампазітар — Павел Кандрусевіч. Каманда зладжаная, шаноўная, абазнаная. Не ўпершыню разам. Добра было б, каб надоўга...

Казачная вечарына ў дзвюх імправізацыях паводле Ханса Крысціяна Андэрсена, як вызначае жанр сам драматург, ён жа і рэжысёр, разлічана, бадай, усё-такі на дзяцей і пэўным чынам — на тых, хто прывядзе іх, дзяцей, у тэатр. Праўда, імравізавання са сцэны можна было... Няможна было пабачыць. Я, няблага ведаючы Алега Жугжду (адзін з улюбёных рэжысёраў!), пазнавала ў акцёраў ягоныя жэсты ды інтанацыі. Ці яны так моцна падпалі пад аўтарскае абаянне? Ці аўтар замоцна ўсіх сабе падпарадкаваў? У імправізацыях так, напэўна, не павінна быць. Тым больш — паводле Андэрсена... Між тым фантазія пастаноўшчыкаў адметная, бо ўдзел у гэтых абвешчаных імправізацыях бярэ сам знакаміты казачнік (А. Казакоў), Йені Лінд (Л. Немагай) — спявачка, "Шведскі салоўка", адна з самых вялікіх сімпатый пісьменніка ды драматурга Андэрсена, а таксама Ханс Крысціян Эрстэд (В. Глазкоў), навуковец-эксперыментатар, агульны знаёмы, сябра і не-сябра... Яны сустракаюцца ў Андэрсена на кватэры ў доме N 20 па вуліцы Нюхаві ў Капенгагене, — яна ў нашым выпадку асталявана на сцэне мастаком Рачкоўскім. З усімі адметнымі падрабязнасцямі кватэры сапраўднага казачніка. Бо толькі там Пастушкі з Камінарамі выпраўляюцца на дахі праз комін, Жаўнерыкі пагарджаюць падступлівым Тролем з табакеркі ды расплачваюцца за каханне сваім алавяным жыццём... Варта аддаць належнае лялькам. Персанажы выканаваны ў некалькіх лялечных сістэмах (кійковыя лялькі, марыянеткі, пальчатковыя), пры гэтым адзін і той самы персанаж можа нечакана з'яўляцца то марыянеткаю, то ...статуэткаю...

Дзяцей ад пачатку зачараваў Стары Кітаец. Той самы, што спачатку быў Кітайскім Імператарам, — паводле п'есы, а потым... выконваў ролю Старога Кітайца, дзядулі парцалянай Пастушкі. Але толькі сцэнічны Андэрсен узяўся распавядаць першую гісторыю, як да яго прыехалі госці! А дзецям у зале, асабліва тым, каму ўзрост не спрыяў зразумець дачыненні дарослых на сцэне, выпала хвілінка разгарнуць цукерку або пашамацець праграмкаю... І страчаную праз выдаткі драматургіі дзіцячую ўвагу потым вельмі цяжка было збіраць.

Увогуле спектакль паглядзець варта. Працуюць акцёры па-руску. Нават спяваюць ("Шведскі салоўка"). Стараюцца на розныя галасы... Мне асабіста яны нагадалі даўно забыты правінцыйны тэатр маленства, дзе з файным паляшуцкім маўленнем перайначвалі спектаклі Абразцова. Мо і цяпер так будзе? Я нічога не раю. Я яшчэ спадзяюся, што акцёры не забыліся на самыя выгодныя бакі сваёй акцёрскай прыроды. І пароды. А яна па ўсіх прыкметах — тутэйшая...

З ёю застаецца цяпер хіба адно — імправізаваць.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

# ЯЎРЭЙСКІ ДОН-КІХОТ

## 160 ГАДОЎ НАЗАД У КАПЫЛІ НАРАДЗІЎСЯ МЭНДЭЛЕ МОЙХЕР-СФОРЫМ

У ХАЦЕ яблыку няма дзе ўпасці. Дом Бройдаў — у самым цэнтры Капыля, на местачковым рынку. Атынкаваны і пабелены знадворку, ён відзён здаля. Як бы запрашае да сябе: заходзь, чалавеча, не саромейся. Сама ж гаспадыня Сара — жанчына кампанейская, таварыская, любіць з людзьмі пагаварыць, а, выкарыстаўшы зручны момант, дастаткам пахваліцца. А гэта, вядома, лепей рабіць, калі сяброўак сабраць. Іх у Сары шмат і ўсе ёй роўня. Жонкі альбо сёстры, а часам і маці карчмароў, шынкароў, розных арандатараў, ліхвяроў. Заўсёды ў доме Сары і радні гаспадара заезджага дома месца знойдзецца. Ды і як не запрасіць іх — не нейкая ж там галота!

Не цярпіць Сара шаўцоў, краўцоў, гарбароў — усіх гэтых рамеснікаў, ці пярэхрыстаў розных, як любіць казаць. Ды і хіба ж можна ўспрымаць усур'ёз гэту галыцьбу, якая не памятае свайго роду-племені? Нездарма пра іх ніхто добрага слова ў кагале не гаворыць. Іншая справа — яны, Бройды! Муж Мойша — чалавек у грамадзе паважаны. Не абы-хто, а арандатар каробачнага збору (так называўся спецыяльны падатак на мяса, які яўрэйскае насельніцтва плаціла пры царызме. — **А. М.**). Сам старэйшына кагала рэб Хаімка з ім на роўных. А ці яна, Сара, сваім паходжаннем не можа пахваліцца? Блізкія яе сваякі — багатыя, пастаянна пры грашах. Ліхварствам займаюцца і пакрысе ў банкіры выбіваюцца. Хто ў Вільню падаўся, а хто ў Мінску ўладкаваўся, і кожны справу сваю ведае.

Запросіць Сара сяброўак на вячоркі — глядзіш, у гурце і час хутчэй бяжыць. Лёгенька падміргвае полымя лучыны. А жанкі не адно языкамі мянташаць, а і справу робяць. Гаворка толькі падмога ёй. Хто прадзе, хто апранаху якую падшывае, а размова — быццам ручаёк вясновы. Непрыкметна з'явіцца, адкуль узяўся — дакладна сказаць нельга, аднак не спыніць яго. Усё больш гаманкім, шумлівым становіцца, нораў паказвае. Так і жанкі: адна не паспела выгаварыцца, як другая яе прыспешвае — дай і мне слова сказаць.

Якіх толькі гісторый яны ні ведаюць?! І адна за другую страшнейшая. Асабліва, калі расказвае старая Лейбчыха. Адкуль толькі і ведае яна такія дзіўныя здарэнні і выпадкі?! Сапраўды ўжо: з рога — усяго многа.

Толькі Лейбчыха ў хату, Шолам-Якаў спяшаецца заняць сваё звыклае месца ля прыпечку. І цёпла — як ні выстуджваецца за дзень печ, ды ад чарэні цяплом патыхае. А галоўнае — зручна: сам ты нікому не перашкаджаеш, сядзіш сабе ўнізе і толькі вушы "вострыш", каб самае цікавае не прапусціць. А яно акурат з прыходам Лейбчыхі і пачынаецца.

А старая пра ўсё здагадваецца. Заходзіць годна. Спярша здароўкаецца з гаспадыняй, а затым і з астатнімі. А праз якую хвіліну...

— Ці можаш ты, Сара, паверыць? — што б ні расказвала Лейбчыха, заўсёды звяртаецца непасрэдна да гаспадыні. Адказу яна пры гэтым не чакае, бо ён і непатрэбен. — Дык вер, Сара, не вер, а такое аднойчы адбылося, што і паверыць цяжка. Як кажа мой стары Ёсель: "Ты і сама не верыш таму, што гаворыш". А чаму гэта я, Сара, не веру? Каб Лейбчыха не верыла, Сара, дык навошта б Лейбчыха расказвала б? А таму Лейбчыха і расказвае, Сара, што ў тое, пра што расказвае, верыць...

Шолам-Якаў — сама ўвага. Сціснуўся, чакае, калі Лейбчыха да самага галоўнага пяройдзе. Чакаюць і ўсе, хто сабраўся ў хаце. Чакае і сама Сара Бройдэ. Чакаюць з вялікім нецярпеннем, бо ведаюць, наколькі ахвочая Лейбчыха пагаварыць аб тым, што да самага галоўнага ніякага дачынення не мае. Нарэшце, яна, прыгадаўшы яшчэ некалькі разоў свайго Ёселя і абазваўшы яго пры гэтым не самымі лепшымі словамі, не менш разоў звярнуўшыся да Сары, як бы просячы далейшага дазволу расказваць, пачынае:

— У чалавека па імені Гаўрыла, які жыў у мястэчку...

Назва мястэчка для Шолама-Якава — не істотная. Як урэшце і для ўсіх астатніх. Хай сабе суседнія Цімкавічы ці Грозава, якое знаходзіцца з другога боку Капыля. Важна тое, што ў мястэчку адбылося. Адбылося ж, калі верыць Лейбчысе, вось што. У таго самага Гаўрылы нарадзіўся сын. А паколькі па яўрэйскім звычаі трэба зрабіць хлопчыку абразанне, запрасіў Гаўрыла да сябе старога Элю, які добра ведаў гэтую справу. Жыў Эля непадалёку ад мястэчка. Узяў Эля з сабой слугу і абодва сабраліся ў дарогу. Амаль да самага мястэчка без прыгод даехалі. Нават першыя хаты паказаліся ўжо на пагорку.

— І тут... — пачуўшы гэта, Шолам-Якаў ажно прыўстаў. Ён даўно зачакаўся, калі ж адбудзецца нешта надзвычайнае. Цяпер бы толькі не прапусціць ніводнага слова.

— І тут, — Лейбчыха абвяла ўсіх позіркам, — бачыць Эля на пагорку... больш за сотню тысяч чарцей і ведзьмаў...

У хаце — маўклівая цішыня. Шолам-Якаў ад хвалявання нават кончык языка прыкусіў. Не ўстрымалася, праўда, Сара:

— Можа, больш за сотню?

Пачуўшы гэта, старая Лейбчыха так зірнула на гаспадыню, што тая ад гнеўна-пагрозлівага позірку ажно сцялася.

— Больш за сотню тысяч чарцей і ведзьмаў убачыў на пагорку Эля, — працягвала, як ні ў чым, Лейбчыха. — І ў кожнай ведзьмы... І ў кожнага чорта з рота полымя шугала. А яшчэ вакол іх агонь палаў... Чорны гэткі, а вакол яго нячысцікі скачуць. Прыглядзеўся Эля ўважліва і ледзь не самлеў...

Пры гэтых словах і некаторым жанкам дрэнна стала... Пачалі хрысціцца, хапаць шырока раскрытымі ратамі паветра.

Страшна і Шоламу-Якаву, але ж ён... мужчына, таму мужна трымаецца. Хіба што падняўся, прытуліўся да печы. А Лейбчыха, як быццам нічога такога, далей працягвае:

— Ледзь не самлеў Эля, калі ўбачыў, як нячысцікі перакідваюць з рук на рукі тое самае дзіця, да якога ён едзе. Іншы на яго месцы разгубіўся б, спалохаўся, ды не такі Эля. "Дай мне хутчэй вады з маёй бутэлькі!" — загадаў ён слузе. А сам узяў сем нажоў, сем дошак, сем чаравікаў...

Як ні страшна Шоламу-Якаву, як ні цікава, а гатовы быў запытацца: адкуль жа гэтыя самыя нажы, дошкі і чаравікі ў Элі ўзяліся? Магчыма б, і асмеліўся, і запытаўся б, ды сустрэўся позіркам з маткаю. А Сара, бадай, і здагадваецца, што ў сына ў галаве. Так строга паглядзела яму ў вочы, што прапала ў яго ахвота пытацца пра тое ў старой Лейбчыхі.

А Лейбчыха і задаволеная, што на ўсіх жах навяла:

— У кожны чаравік паклаў Эля па адным нажы. Потым зняў свае чаравікі з ног, двойчы памыў рукі, выставіў наперад вялікі палец левай рукі і прамовіў: "Сілай святога духу гэтага і гэткага я здымаю чары з мужчын і жанчын, з чарцей і ведзьмаў, каб не было шкоды дзіцяці".

Зноў Шоламу-Якаву не па сабе, зноў карціць запытацца ў Лейбчыхі — ужо пра тыя сем дошак, якія ўзяў рэб Эля. Навошта яны яму, калі і без іх усё чын-чынам абышлося? Але — маўчыць хлопчык. Нават у матчын бок не пазірае, ведаючы, што і гэтым разам яго празмерная цікаўнасць нічога добрага не абяцае. Не цярпіцца толькі Шоламу-Якаву хутчэй пачуць канец гісторыі.

— Толькі прамовіў Эля словы-заклёцці, як усе чэрці і ведзьмы — усе да аднаго! — загінулі. А дзіця жывым-здаровым засталося. Узяў яго Эля з сабой ды і ў мястэчка хутчэй. Убачылі ў хаце старога з дзіцем — вельмі здзівіліся. Кінуліся да парадзіхі, а каля яе замест дзіцяці ляжаць салома і мякіна...

Жанкі перагаворваюцца, горача, усхвалявана абмяркоўваюць пачутае. Нешта гаворыць і Лейбчыха. Відаць, збіраецца чарговую гісторыю расказаць, ды Шолам-Якаў цяпер не вельмі прыслухоўваецца да іх гаманы. Ён ужо з нецярпеннем чакае, каб усе хутчэй разышліся па хатах, і можна было легчы спаць. А там неўпрыкметку прабяжыць ноч, настане новы дзень і можна будзе бегчы да сяброў. Найперш — да суседскага Бенчы. Яны даўно пахаўрусавалі, ніякіх сакрэтаў адзін ад аднаго не маюць. Праўда, бацькам гэтае сяброўства не вельмі падабаецца. І бацька, і маці інакш як галотай сям'ю суседзяў не называюць, таму і не падабаецца ім, што сын часта ходзіць да нейкага там рамесніка.

А Шоламу-Якаву што? Пасварыцца маці, паўшчувае бацька, затое Бенча яго заўсёды зразумее. Пагамоняць, падзеляцца сваімі сакрэтамі ды на рэчку Каменку, або ў лес, што адразу за ёй, узбіраецца на пагорак.

Зрэшты, прывык Шолам-Якаў да таго, што часта бавіць час адзін. У Бенчы клопатаў хапае, даводзіцца памагаць бацькам па гаспадарцы, а яго, Шолама-Якава, ні бацька, ні маці надта не прымушаюць працаваць. Усяму свой час, мяркуюць, адно ўшчуваюць, каб лепей вучыўся...

Аднак вернемся ў колішні Капыль, паспрабуем убачыць яго такім, які быў ён сто шэсцьдзесят гадоў назад. У гэтым дапамогуць кніга Уры Фінкеля "Мэндэлэ Мойхер-Сфорым" і творы самога Мэндэле Мойхер-Сфорыма. Таго самага яўрэйскага хлопчыка Шолама-Якава, які стаў знакамітым пісьменнікам і выбраў сабе такі псеўданім (у перакладзе на беларускую мову ён азначае: Мэндэле-кніганоша). У творах яго вельмі шмат аўтабіяграфічнага матэрыялу, а што да аповесці "Шлёма, Хаймаў сын", дык яна — свайго роду мастацкая біяграфія аўтара.

І так — Капыль трыццатых гадоў мінулага стагоддзя. Незадоўга да гэтага, у 1827 годзе, з'явіўся адзін з указаў тагачаснага цара Мікалая І, паводле якога яўрэяў пачалі браць у рэкруты, чаго дагэтуль не практыкавалася. Ахвотнікаў ісці служыць знаходзілася няшмат. Найперш ухіляліся ад службы дзеці заможных сем'яў.

Старэйшына капыльскага кагала рэб Хаімка знайшоў з гэтага становішча выйсце, якім, дарэчы, карысталіся і ў іншых населеных пунктах. Шукалі наймітаў (калі-нікалі гэтую ролю выконвалі і самі члены кагала), якія лавілі на дарогах яўрэяў і за пэўнае ўзнагароджанне аддавалі іх у рэкруты. Адначасова рэб Хаімка паклапаціўся, каб заможныя дзеці ўвогуле знаходзіліся па-за ўвагай улад. Калі нараджаліся хлопчыкі, іх проста не рэгістравалі ў так званых "сказках", а прасцей — метрычных кнігах. У дадатак хлопчыкаў з заможных сем'яў проста прыпісвалі ў бедныя. Вось



атрымлівалася, што ў якога-небудзь капыльскага рамесніка восем, а то і болей дзяцей, якіх можна браць на вайсковую службу. І бралі, часам па двое-трое з адной сям'і. Канечне, сыноў яўрэйскіх беднякоў.

Таму і адзін з капыльскіх старэйшын кагала Мойша Бройдэ, калі ў яго нарадзіўся сын Шолам-Якаў, не паспяшаўся запісаць яго ў метрычную кнігу. А калі нарэшце зрабіў гэта, дык прыпісаў хлопчыка не да сваёй сям'і. Так і з'явіўся ў Капылі Шолам-Якаў Абрамовіч. Пазней, стаўшы знакамітым пісьменнікам, ён прызнаваўся: "У нашай сям'і ўсталявалася думка аб тым, што я нарадзіўся ў канцы 1835 года". Аднак у энцыклапедычных даведніках называецца больш пэўная дата — 20 снежня 1835-га, а па новым стылі — 2 студзеня 1836 года.

Дапытлівая, уражлівая душа хлопчыка назаўсёды ўвабрала многія падзеі, што адбываліся на той час у Капылі. Хаця падзеямі іх не заўсёды і назавеш. Мястэчка жыло звычайным местачковым жыццём, дзе кожны, як кажуць, навідавоку. Але ж гэта акурат і спрыяла таму, што, бадай, нішто не праходзіла міма позірку Шолама-Якава. Іншая справа, што далёка не заўсёды ён мог знайсці своечасовы адказ на тое, што цікавіла яго, а часам выклікала і звычайны пратэст сумленнага маленькага грамадзяніна. Штодзённыя будні ставілі перад Шоламам-Якавам пастаянныя "чаму"?

Ці не гэтае жаданне дайсці, дакапацца, як кажуць, да першаасновы, ісціны, паступова і фарміравала характар, светапогляд. Ці не першае, на што звярнуў увагу падлетак, — неадпаведнасць паводзін многіх людзей: былі такімі, а перад іншымі выдавалі сябе зусім другімі. Не ў апошнюю чаргу гэта тычылася і старэйшыны капыльскага кагала рэба Хаімкі. Ні для кога не было сакрэтам, што ён — жорсткі чалавек.

Бедныя яўрэі баяліся яго, як чумы. А дома, калі ўдавалася набраць чарговых рэкрутаў з сыноў беднякоў, Хаімка разыгрываў самы што ні ёсць спектакль. Ён стомлена садзіўся ў вялікае скуранoе крэсла, што засталося ў спадчыну ад бацькі, і пачынаў мармытаць малітвы. Пры гэтым Хаімка заліваўся горкімі слязьмі. І калі б хто нічога не ведаў пра яго хаўрусаванне з наймітамі, якія сочаць на дарогах за нявіннымі ахвярамі, падумаў бы, што гэта духоўна ачышчаецца сумленнейшы чалавек.

Вельмі далёкім было ад рэчаіснасці і тое, чаму навучаўся Шолам-Якаў у хедэры, куды ён пайшоў у шэсць гадоў. У розных свяшчэнных кнігах пісалася адно, а ў жыцці было інакш. Яўрэйскіх беднякоў зноў жа прыгняталі, і не ў апошнюю чаргу — супляменнікі. Тыя, хто, як кажуць, выбіўся ў людзі. Між іншым, пра гэта пісаў у свой час і ўраджэнец Капыля, крытык 60-х гадоў мінулага стагоддзя Абрам-Якаў Паперна: "Капыльскія патрыцыі, якія ганарыліся сваёй рэлігійнай вучонасцю, сваім дастаткам і знатнасцю, пазіралі зверху ўніз на рамеснікаў, балаголаў, падзёншчыкаў і іншых". Для заможнай сям'і лічылася ганьбай мець сваяка краўца, шаўца ці іншага рамесніка. Іншая справа — прадстаўнікі патрэбных прафесій. Тыя ж шынкары, карчмары, ліхвяры. Апошніх, дарэчы вельмі паважала і маці Шолама-Якава.

І царскія ўлады да пары-да часу знаходзіліся на баку яўрэйства, вядома, багатага. Аднак паводле двух чарговых ўказаў Мікалая яўрэям забаранялася насіць традыцыйную нацыянальную сярэдневяковую вопратку. Хлопчыкаў у рэкруты пачалі браць з дзесяці-дванаццаці гадоў. А як гэтыя ўказы праводзіліся ў жыццё, Мэндэле Мойхер-Сфорым праўдзіва расказаў у той жа аповесці "Шлёма, Хаймаў сын".

У адзін з дзён местачковыя ўлады загадалі Мойшэ Бройдэ сабраць усіх яўрэяў на плошчу. Не паспелі спалоханыя людзі разабрацца, што і да чаго, як ім прымусова пачалі стрыгчы бароды. Калі хто выказваў незадавальненне, а то і супраціўленне, яго жорстка білі. Прычыну падобных дзеянняў растлумачыў капыльскі асэсар Здраеўскі. Тут жа, на плошчы, ён заявіў: "З сённяшняга дня вы не маеце права насіць ні штраймел, ні кафтанаў, ні паясоў, ні жаночых турбанаў. Вы павінны апранацца панямецку. Усіх дзяцей — у школы".

Гэта былі клопаты аб выхаванні, адукацыі. Але ў падобных школах дзецям стала не лягчэй, чым у хедэры. Праўда, бацька паклапаціўся, каб з Шоламам-Якавам займаўся спецыяльна наняты яўрэйскі настаўнік — меламед Ёся Рувен. Карысць давалі не самі заняткі па розных прадметах, а тое, што Рувен аказаўся цудоўным разьбяром па дрэве і камені. Гэта таксама былі своеасаблівыя ўрокі — урокі прыгажосці.

Яшчэ ў падлеткавым узросце Шолам-Якаў зблізіўся не толькі з дзяцьмі яўрэйскіх беднякоў, але і з іх бацькамі. Часта заходзіў да каваля Айзіка, сталяра Герца Кейлеса. Ды пра гэта таксама сказана ў аповесці "Шлёма, Хаймаў сын": "Наколькі бедна і панура выглядалі хаты рамеснікаў звонку, настолькі весела, ажыўлена часам у іх.

Вось стаіць, напрыклад, Іцык-кравец з прасам у руках і пачынае граць марш, адбіваючы такт прасам, а чаляднікі, хлопцы вакол стала, спрытна працуючы іголкай, дапамагаюць, хто чым можа... Тут, у рамеснікаў, спяваюцца часта песні, якія яны самі складаюць. Гэтыя песні разыходзяцца потым па свеце, між людзей, трапляюць у вусны дзяўчат, служанак і набываюць назву народных..."

Як бы там ні было, а жыццё Шолама-Якава да чатырнаццацігадовага ўзросту праходзіла больш-менш бесклапотна. Але, як часта і бывае, прыйшла, калі яе менш за ўсё чакаюць, бяда. Нечакана цяжка захварэў і памёр бацька. На сямейнай радзе параіліся і, не пытаючы яго асаблівай згоды, накіравалі Шолама-Якава да багатых сваякоў у Цімкавічы, за некалькі вёрст ад Капыля. Аднак у чужым доме — не ў сваім. Маркоціўся Шолам-Якаў і ад таго, што ўпершыню быў разлучаны з блізкімі, а яшчэ — ад душэўнай адзіноты: у сваякоў яго ніхто не разумеў і разумець асабліва не збіраўся.

Дзякаваць Богу, не надакучалі апекай. А яму толькі гэтага і трэба. Любіў паблукаць берагамі рэчкі, завітваў у Скіп'ёва, даручаючы свае думы векавому лесу. І ўсё ж не цягнула дамоў. Аднойчы не стрываў, збег, нават не развітваючыся. Маці ж не ўзрадавалася, убачыўшы сына на родным падворку. А каб з ненавіснай ёй галыцьбой не хаўрусаваў, вырашыла накіраваць сына на вучобу ў Слуцк. На той час там знаходзіўся адзін з буйнейшых на Беларусі ешыботаў, чарговая па ступені рэлігійная школа пасля хедэра. А што ўяўляла сабой гэтая праслаўленая вучэбная ўстанова, лепш за У. Фінкеля, відаць, не скажаш: "Гэта была школа па выпрацоўцы сапсаваных, фальшывых крывадушнікаў, адвечных калек, грубых цынікаў "чарвякоў у хрэне". Гэта была феадальна-рабінская казарма, у якой муштравалася цэлая армія салдат для рабіннай алігархіі..."

Пра вучобу ў ешыботе красамоўнае сведчанне пакінуў і сам пісьменнік: "Хлопцы, якія мелі хлеб ці грошы, гандлявалі, а тыя, хто не меў ні хлеба, ні грошай, займаліся крадзяжом, сядзелі і расказвалі адзін аднаму жудасныя гісторыі: пра разбойнікаў і волатаў, пра чараўнікоў і чарцей, што з'яўляюцца ўначы на полі і зводзяць людзей, пра мерцвякоў, якія пакідаюць свае магілы і блукаюць навокал і лечаць хворых людзей палявымі травамі ці мучаюць грэшнікаў..."

Дзякаваць Богу, што ўсе гэтыя жудасныя расказы (рыхтык старой Лейбчыхі) абуджалі фантазію, у далейшым аказалі добрую паслугу пры напісанні многіх твораў. А яшчэ, як бы мы сёння ні збіраліся пераацэньваць мінулае, ешыбоцкія будні абуджалі ў Шолама-Якава нянавісць да прыгнятальнікаў. Бо насілле панавала і тут. І не толькі з боку выкладчыкаў. Не было згоды і паміж навучэнцамі.

*(Працяг на стар. 14-15)*

# САГРЭЕЦЦА СЭРЦА АД РОДНАГА

Першы год газеты беларусаў Латвіі "Прамень"

Паўсюль на прасторах былога Савецкага Саюза жывуць беларусы, спадзеючыся звязаць свой лёс з іншай дзяржаваю, і спадзеючыся захаваць сваю нацыянальна-культурную адметнасць. Дзеля гэтага ствараюць беларускія клубы, суполкі, мастацкія калектывы, ладзяць радыёперадачы па-беларуску і выпускаюць перыядычныя выданні.

Адно з такіх — газета "Прамень", якую з канца снежня 1994 года выдаюць беларусы Латвіі.

Асноўная задача газеты, як было заяўлена ў звароце рэдкалегіі да чытачоў, "з'ядноўваць беларусаў на глебе любові і павагі да ўсяго роднага, што нельга забыць, аб чым заўжды шчыміць беларускае сэрца". "Прамень" расказвае пра дзейнасць таварыстваў "Світанак", "Прамень", "Уздым" ды іншых аб'яднанняў нашых землякоў у Латвіі. Абмяркоўваюцца праблемы нацыянальнага культурнага жыцця, захавання беларускай адметнасці ў латышскім асяроддзі, адукацыі дзяцей і дарослых. "Прамень" паведаміў пра мастацкую студыю "Вясёлка", рыжскую беларускую школу, дзе працуюць мастак Вячка Целеш і пісьменнік Андрэй Гуцаў, нядзельную школу ў Даўгаўпілсе, фальклорны ансамбль "Надзея", іншыя акцыі нашых суродзічаў у розных гарадах Латвіі.

На старонках газеты ладзяцца сустрэчы з беларусамі-прадпрымальнікамі, якія выдаткоўваюць грошы на падтрымку беларускага руху, з кіраўнікамі фірм, якія звязаны з нашаю Бацькаўшчынай.

За год выйшла 12 нумароў "Прамени". "Газета беларусаў Латвіі" стала штомесячнай. За год пабачыла ў ёй фотаздымкаў, малюнкаў на беларускую тэматыку — ад фотаілюстрацый пра афіцыйныя падзеі, мерапрыемствы і святы да фотааповядаў пра цудоўныя краявіды нашай зямлі. Дарэчы, шмат ілюстрацый прапануе да сваіх матэрыялаў пісьменнік Сяргей Панізнік.

Значнае месца ў "Прамені" адводзіцца інфармацыі пра Беларусь і з Беларусі. Гэта і паведамленні пра найбольш важныя падзеі ў палітыцы і эканоміцы краіны, і расказы пра цікавых людзей ды абмеркаванне найбольш балючых праблем Бацькаўшчыны. З трэцяга нумара з'явілася спецыяльная калонка "Як маешся, Бацькаўшчына?". Апроч эканамічных ды палітычных навінаў, друкуецца інфармацыя пра культурныя падзеі. Назаву тут толькі некалькі публікацый: "Якой жа будзе наша мова беларуская?" Ніла Гілевіча, нататкі пра II Міжнародны кангрэс беларусістаў разам з фрагментамі паасобных выступленняў, "Зямля, дзе Бог нарадзіўся" паэткі й перакладчыцы Любові Турбіной, расказ пра IV З'езд ТБМ "Крамольныя нататкі: мова і кілбаса" Лявона Шакаўца...

Выданне не толькі інфармуе, але й крытыкуе, раіць, прапаноўвае. Ім не былі абыдзены ўвагаю такія мерапрыемствы, як рэферэндум, выбары, усё, што адбывалася пасля іх, дзейнасць беларускага прэзідэнта, становішча беларускае мовы, нацыянальнай культуры і адукацыі.

Асобная тэма — расказы пра беларуска-латышскія й латышскія ўзаемадачыненні, пра культурнае ўзаемадзеянне. Тут найбольш і найчасцей шчыруе С. Панізнік.

Супрацоўніца беларускага пасольства Інеса Плескачэўская ў артыкуле "Беларусы ў Латгаліі: гісторыя і лічбы" падае шмат цікавага матэрыялу пра даўняе суседства двух народаў.

Газета расказвае пра беларускіх дзеячаў культуры, дае інтэрв'ю з імі. Можна тут згадаць публікацыі А. Каўруса пра Янку Брыля, падборку пра непаўторную Стэфанію Станюту, інтэрв'ю з Ядвігай Паплаўскай і Аляксандрам Ціхановічам, артыкул пра Уладзіміра Мулявіна.

"Прамень" актыўна перадрукоўвае альбо скарыстоўвае матэрыялы з перыядычных выданняў Беларусі. І гэта разумна, бо нашы суайчыннікі, на жаль, пазбаўлены магчымасці выпісваць перыёдыку Беларусі.

Трэба спадзявацца, што "Прамень", запалены беларускімі патрыётамі ў Латвіі, не згасне, што будуць новыя нумары і новыя сустрэчы.

**Уладзімір ПУЧЫНСКІ**

# Міхась ВЫШЫНСКІ



18 лютага 1996 года раптоўна памёр беларускі пісьменнік Міхась Вышынскі.

Міхаіл Антонавіч Вышынскі нарадзіўся ў горадзе Мінску 27 студзеня 1940 года ў сям'і настаўнікаў. Пасля заканчэння школы фабрычна-заводскага навучання працаваў мулярам на будоўлях сталіцы. У 1965 годзе скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Настаўнічаў на Брэстчыне і Міншчыне. Затым быў рэдактарам мастацкай літаратуры ў выдавецтве "Беларусь", рэдактарам аддзела прозы ў часопісе "Нёман", а ў 1970-1975 гг. працаваў рэдактарам вяшчання для дзяцей і юнацтва Беларускага радыё.

Літаратурную дзейнасць Міхась Вышынскі пачаў у 1959 годзе: у перыядычным друку з'явіўся яго першы нарыс. З гэтага часу творы празаіка — апавяданні, аповесці, нарысы пастаянна друкуюцца на старонках беларускіх выданняў. Першы зборнік прозы Міхася Вышынскага "Вокны ўначы" ўбачыў свет у 1969 годзе. Неўзабаве выйшлі з друку наступныя кнігі аўтара: "На павароце" (1973), "Крыніца, светлая вадзіца" (1979), "У полі, за сялом..." (1981), "Людзі вясны" (1982).

Мастацкім словам Міхась Вышынскі сцвярджаў у сваіх кнігах галоўнае ў жыцці кожнага: чалавечнасць, імкненне да дабрыні і справядлівасці.

Светлая памяць аб Міхасю Вышынскім назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто ведаў яго.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь глыбока смуткуе з прычыны смерці заслужанай артысткі Беларусі, актрысы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы АЛЯКСЕЕВАЙ Таццяны Назар'еўны і выказвае спачуванне родным, блізкім і калегам нябожчыцы.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў глыбока смуткуе з прычыны смерці Станіславы Эдуардаўны ШПАКОЎСКАЙ — жонкі выдатнага беларускага пісьменніка Язэпа Пушчы і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь выказвае спачуванне мастацкаму кіраўніку — дырэктару Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі "Вольная сцэна", заслужанаму дзеячу мастацтва Беларусі МАЗЫНСКАМУ Валерыю Яўгенавічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

# ДЫК ХТО Ж ЯНЫ, ЕЗУІТЫ?

Адказ на гэтае і іншыя пытанні, што тычацца дзейнасці манаскага каталіцкага ордэна "Таварыства Ісуса" (езуіты, як вядома, ад лацінскага "іезус", што азначае Ісус), дае ў кнізе "Многія прыйдуць пад імем маім" (выдавецтва "Полымя") Станіслаў Цярохін. Гэта, па сутнасці, уся гісторыя езуіцкага руху з часу яго ўзнікнення па сённяшні дзень. Аўтар, выкарыстаўшы багаты матэрыял, належным чынам сістэматызаваўшы яго, імкнецца аб'ектыўна разабрацца, што ўяўляў сабою гэты манаскі ордэн, якія задачы ставіў перад сабой, чаго дасягнуў.

Гаворка пачынаецца з таго, як у 1520 годзе калі, як сведчыць гісторыя, "іспанскі кароль Карлас І, ён жа імператар "Свяшчэннай Рымскай імперыі Карл V" ...развязаў вайну з Францыяй". У час адной з сутычак быў цяжка паранены малады афіцэр Іньіга Лопес дэ Рэкалдэ. Застаўшыся без справы, не маючы магчымасці працягваць вайсковую кар'еру, ён не мог прыдумаць нічога лепшага, як прысвяціць сябе служэнню Богу. А каб згуртаваць прыхільнікаў, стварыў свой ордэн. Праўда, узнік ён пазней, праз шмат гадоў, толькі ў 1534-ым, тады ж колішні афіцэр і памяняў сваё прозвішча, ператварыўшыся ў Ігната Лаёлу.

Паколькі кніга мае падзагаловак "Езуіты на Беларусі", С. Цярохін асноўную ўвагу скіроўвае на высвятленне таго, наколькі гэты ордэн аказаў уплыў на жыццё беларускага народа. Сумнення не выклікае — вялікае. На думку С. Цярохіна, гэта была "дагматычная сіла": "Адчувальны след пакінула яна і ў гісторыі нашага народа, перайначыла традыцыйны лад жыцця многіх тысяч беларусаў — адных узнесла на вяршыню тагачаснай грамадскай піраміды, другіх увяла ў чароўны свет навукі і прыгожага пісьменства, трэцім, што складалі пераважную большасць, наканавала цяжкую, непрыглядную долю, а некаторых, як напрыклад, Казіміра Лышчынскага, выракла на заўчасную смерць у росквіце фізічных і творчых сіл".

Не адмаўляе С. Цярохін і таго, што езуіты шмат садзейнічалі развіццю навукі, асветы, літаратуры. Праўда, ён тут жа ўдакладняе, што ўся сістэма езуіцкай адукацыі мела ярка выражаную скіраванасць — выхоўваўся менавіта каталіцкі светапогляд, адданасць "Таварыству Ісуса", а іншадумства сурова каралася.

С. Цярохін не згаджаецца з тымі, хто сцвярджае, што сябры гэтага ордэна з'яўляліся ледзь не абаронцамі беларускай мовы. Аднак усё ж хацелася, каб палеміка гэтая вялася больш аргументавана, з выкарыстаннем выказванняў, што выклікалі ў аўтара нязгоду.

Апошняя кропка ў развагах С.Цярохіна пастаўлена 1820 годам, а тады, як вядома, езуіты былі выгнаны з Расіі. Мімаходзь аўтар згадвае, што гэты ордэн і па-сённяшні дзень з'яўляецца ў свеце вельмі ўплывовай сілай. Ды гэта ўжо, як кажуць, тэма новага даследавання. Кніга ж, якая выйшла, безумоўна, зацікавіць і тых, хто погляды С. Цярохіна падзяляе, і тых, хто з ім захоча паспрачацца, а то і зусім не згодзіцца.

**Е. ДРОМІН**



# ПОРУЧ З ВАРТАСЦЯМІ

Завершана выданне шасцітомнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі". У ім падаюцца звесткі пра творчасць прыкладна 1100 літаратараў, якія працавалі ў беларускай літаратуры на працягу некалькіх стагоддзяў. Выкананы вялікі аб'ём працы. Матэрыялы збіраліся не толькі ў Беларусі, але і ў бібліятэках блізкага і далёкага замежжа. Дапамогу аказвалі навукоўцы з Масквы, Сафіі, Прагі, Варшавы, Будапешта, Берліна, Харбіна, Нью-Йорка. Слоўнік працяглы час будзе служыць даследчыкам беларускай літаратуры і проста цікаўным чытачам як каштоўная крыніца інфармацыі.

Безумоўна, вартасці гэтага выдання відавочныя. Аднак жа не ўсё ў слоўніку бездакорна. Гэта і зразумела — ахапіць неахопнае, як кажуць, немагчыма. Тым больш, калі прыспешвае час. Таму, думаецца, пойдзе толькі на карысць, калі чытачы ўважліва паставяцца да гэтага выдання, выкажуць свае заўвагі. Ёсць некаторыя і ў мяне.

У свой час я пазнаёміўся з творчасцю маладога пісьменніка Паўла Левановіча, які загінуў на фронце ў 1943 годзе. Адразу ж кінулася ў вочы адсутнасць у бібліяграфіі многіх яго публікацый. Прычым з крыніц, якія не трэба шукаць за морамакіянам — яны захоўваюцца ў Мінску.

Не названы многія артыкулы пісьменніка з газет "Советская Белоруссия", "Чырвоная змена", часопіса "Работніца і калгасніца Беларусі" за 1938 год.

У жніўні 1939 г. П. Левановіч надрукаваў у "Чырвонай змене" "Запіскі турыста" з Каўказа ў трох частках. Першыя дзве публікацыі (8 і 12 жніўня) называюцца, а трэцяй "Зялёны мыс" (22 жніўня) у бібліяграфіі няма.

Як карэспандэнт гэтай газеты пісьменнік удзельнічаў у паходзе Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і надрукаваў у "Чырвонцы" шэраг матэрыялаў: 22 кастрычніка — апавяданне "Каліна-ягада", 24 кастрычніка — інфармацыю "Знамянальны дзень", 28 кастрычніка — "Невыказнае", 2 лістапада ў сааўтарстве з Д. Клябанавым — артыкул "Адзінства, сіла і магутнасць: 70-тысячная дэманстрацыя ў Беластоку", 24 лістапада — замалёўкі "Дзве сустрэчы". Гэтыя матэрыялы не пададзены. Затое публікацыя апавядання "Нерпа" названа ў "Чырвонай змене" двойчы — 24 жніўня 1938 і 1939 гадоў. У сапраўднасці ж твор змяшчаўся ў 1939 годзе.

Часта друкаваўся пісьменнік у "Чырвонай змене" ў 1940 годзе, аднак многія матэрыялы не зарэгістраваны. Абмінуты і многія публікацыі таго ж года ў газеце "Піянер Беларусі".

Не названа грунтоўная рэцэнзія Тодара Алесіна "Добрая кніга" на першы і, на жаль, адзіны зборнік П. Левановіча "Дружба" ("Чырвоная змена", 28 лютага 1939 г.).

Сустракаюцца недакладнасці ў назвах твораў.

У бібліяграфіі пададзена 51 публікацыя ў перыёдыцы. Не пададзены 22 публікацыі. Ці не завялікая такая суадносіна для энцыклапедычнага выдання?

**Георгій ЮРЧАНКА**

# ПЛАЧ КАСАНДРЫ

## ДЗВЕ ТЭНДЭНЦЫІ Ў СТАЎЛЕННІ ДА ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

ЛЮДЗІ, неабыякавыя да гісторыка-культурнай спадчыны па прафесійным абавязку ці па стану душы, ставяцца да яе збераджэння зусім па-рознаму. Ёсць нават такія, што праблему існавання помніка архітэктуры лічаць за лепшае вырашаць па-герастратаўску: няма помніка — няма і праблемы, а сам знішчальнік, не выключана, увойдзе ў гісторыю, хаця б і з негатыўнага боку.

Гэтая тэндэнцыя ў адносінах да матэрыяльнай культуры Беларусі мае ўжо даволі даўнюю гісторыю і сацыяльна-ідэалагічную аснову. Яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя чыноўнікамі "северо-западных" губерній і афіцэрамі Расійскай імперыі ініцыіравалася масавае знішчэнне альбо перабудова ў псеўдарускім стылі каталіцкіх, уніяцкіх і нават старажытных праваслаўных храмаў з нацыянальнымі рысамі ў архітэктурным абліччы з прычыны іх "ветхости" і "безобразного вида" (на думку тых жа афіцэраў).

У першыя гады савецкай улады, у перыяд татальнай барацьбы з рэлігіяй, як "опіумам для народа", і гэты фігавы лісток быў адкінуты. Знішчэнне помнікаў культавага дойлідства стала лічыцца справай нават прагрэсіўнай. Як ні парадаксальна, гэтую адкрытую вакханалію прыпыніла Вялікая Айчынная вайна. Сумы кантрыбуцый, накладзеных на гітлераўцаў за варварскае знішчэнне матэрыяльных каштоўнасцей, сярод якіх па міжнародных крытэрыях вылучаліся помнікі духоўнай гісторыі, архітэктуры, мастацтва, крыху ацвярозілі ўласных знішчальнікаў, але ненадоўга.

Натхнёныя пафасам аднаўлення, аўтары пасляваенных генеральных планаў напаўразбураных гарадоў мала лічыліся з ацалелай гістарычнай забудовай. Гэтая ж тэндэнцыя яшчэ больш імкліва раскручвалася ў 60-я гады пад лозунгам стварэння камуністычных "блакітных гарадоў" з шырокімі праспектамі і мікрараёнамі тыпавых панельных дамоў, якія пазней назвалі "хрушчобамі". У тыя гады знішчаны найбольш старажытныя і адметныя ў мастацкіх адносінах нашы святыні ў Гродне, Мінску, Магілёве і многіх іншых гарадах з санкцыі наменклатурных (сярод іх былі "заслужаныя" і "народныя") архітэктараў. Гэта, напрыклад, Дабравешчанская царква ў Віцебску, касцёл і калегіум езуітаў у Полацку, уніяцкія цэрквы ў Глыбокім і Оршы і іншыя.

Відавочна, што гэтая даўняя тэндэнцыя ў адносінах да гісторыка-культурнай спадчыны — тэндэнцыя яе фізічнага і маральнага знішчэння — жыве і развіваецца ў часе, мяняецца адпаведна яму, а іншы раз нават пераганяе яго. Як вядома, мы, беларусы, першымі павінны былі ўвайсці ў "камуністычнае заўтра", выракаючыся сваёй нацыянальнай гісторыі...

Але ёсць і іншы характар стаўлення да гісторыка-культурнай спадчыны, які ў адрозненне ад прыгаданага "прагрэсіўнага" можна вызначыць як "кансерватыўны". У дачыненні да архітэктурна-рэлігійнага комплексу ў Жыровічах я аднойчы пачула выраз: "намоленае месца" — надзвычай трапнае вызначэнне акумуляцыі духоўнай энергіі, што адбываецца ў месцах доўгага і актыўнага выкарыстання помнікаў сакральнага дойлідства. І не толькі яго. У зонах гістарычнай забудовы захоўваецца спрасаваны ў часе духоўны вопыт нашых продкаў, які ўспрымаецца на ўзроўні "калектыўнага падсвядомага". Менавіта наяўнасць гэтага метафізічнага моманту ў мастацтве з'яўляецца адным з галоўных фактараў у фарміраванні менталітэту нацыі. І таму неабходнасць аўтэнтычнасці ў захаванні гісторыка-культурнай спадчыны ўжо даўно зразумела ўсё цывілізаванае чалавецтва, што і зафіксавана ў міжнародных канвенцыях і хартыях.

Нягледзячы на тое, што большая частка нашага грамадства, безумоўна, зацікаўлена ў фарміраванні паважлівага стаўлення да зберажэння тых малых рэштак гісторыка-мастацкай спадчыны беларускага народа, якія нам засталіся, у рэальнасці, на жаль, увесь час пераважае дзейнасць "прагрэсістаў". Больш за тое, грамадства, як той скупы, за іх актыўнасць плаціць двойчы: нясе і матэрыяльныя, і маральныя страты. Свядомыя грамадзяне, якія прадбачаць гэта, выступаюць у ролі Касандры: яны галосяць, але іх быццам ніхто і не чуе.

Паназіраем барацьбу двух адзначаных тэндэнцый на прыкладзе паступовага знішчэння (ці рэгенерацыі?) гістарычнага цэнтра Мінска. Напачатку 70-х гадоў у ролі Касандры выступаў З. Пазняк, які ўздымаў голас у абарону гістарычнай забудовы Нямігі і навакольных вуліц. Але "прагрэсісты" сцвярджалі пра неабходнасць стварэння на гэтым месцы "транспортной артерии, дублирующей проспект". На сённяшні дзень замест камернай малапавярховай забудовы з маляўнічымі інтымнымі дворыкамі мы маем надзвычай няўдалы ў архітэктурных і горадабудаўнічых адносінах жыллёва-гандлёвы комплекс, узведзены па праекце архітэктара С. Мусінскага. І гэта не толькі маё асабістае меркаванне. Характэрна, што ў Галоўмінскархітэктуры (тады ГалоўАПУ) гэта разумелі ад самага пачатку, але праект комплексу "стоил очень дорого, чтобы мы могли от него отказаться, даже хорошо понимая его несовершенство". Паказальнае прызнанне чыноўніка-"прагрэсіста", ці не так? Лёс Нямігі быў вырашаны. Але ці вырашаны набалелыя транспартныя праблемы? Відавочна, што не.

Дарэчы, праблемы транспарту, паркоўкі, размеркавання пасажырскіх і грузапатокаў і г. д. на працягу апошняй чвэрці стагоддзя з'яўляюцца галоўным аргументам "прагрэсістаў". І вось што дзіўна: нягледзячы на тое, што перавага аддаецца транспартным праблемам, а не захаванню гісторыка-культурнай спадчыны, ні тыя, ні другія не вырашаюцца прафесійна. Пры праектаванні другой лініі Мінскага метрапалітэна Э. Вецер горача выступала супраць пракладкі яго трасы праз археалагічныя пласты Ніжняга рынку, пад архітэктурна-мастацкім ансамблем "саборнай часткі" Верхняга горада, пад Кальварыйскімі могілкамі. Яна папярэджвала аб магчымых незваротных стратах гісторыка-культурных каштоўнасцей, але — яе не пачулі. Пракладка метро прывяла да аварыйнага стану і канчатковага разбурэння помніка архітэктуры XVIII—XIX стст. — комплексу жылых дамоў NN 19—21 на плошчы Свабоды. Станцыя метро "Няміга" дрэнажыруе 9-метровы культурны пласт Ніжняга рынку, што прыводзіць да гніення драўляных канструкцый археалагічных рэштак старажытнага Мінска, а сама станцыя існуе ў ненармальным вільготнасным рэжыме.

Яшчэ адзін прыклад. У 1984 г. на вачах ураджаных мінчан у аднячассе быў знесены сціплы, але дабротны на выгляд будынак на рагу вуліц Леніна і Інтэрнацыянальнай, адзіным грэхам якога было тое, што ён крыху выступаў за сучасную так званую чырвоную лінію апошняй. Каштоўныя навуковыя звесткі па гісторыі гэтага будынка знайшоў У. Дзянісаў, які даказаў, што ў ім у свой час размяшчаўся першы ў Мінску гарадскі тэатр. Матывацыяй для яго зносу было тое, што будынак, з аднаго боку, знаходзіўся ў аварыйным стане, а, з другога, перашкаджаў магчымасцям пашырэння кансерваторыі (сучаснай Акадэміі музыкі). Пашырэння дагэтуль не адбылося і да новага тысячагоддзя наўрад ці адбудзецца, але ўжо колькі разоў на розных архітэктурных нарадах абмяркоўвалася абсурдная ідэя імітацыі фасада знесенага будынка на праектуемым "навабудзе". Разглядаўся таксама праект імітацыі рэштак знесенага пасля вайны дамініканскага касцёла, аднаўленню якога замінае будаўніцтва Палаца Рэспублікі.

Можна прывесці яшчэ шмат прыкладаў. Здавалася б, цяпер, пры існаванні Дзяржаўнай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, пастаяннай камісіі Мінгарсавета па культуры, галоснасці і захаванні гісторыка-культурнай спадчыны, Акцыянернага таварыства "Стары Менск", камітэта "Галоўмінскархітэктура" і іншых устаноў, зацікаўленых у ажыццяўленні комплекснай навуковай рэгенерацыі гістарычнай забудовы Верхняга горада, за яго лёс можна было б не хвалявацца. Але ж гэта зусім не так, аб чым сведчаць шматлікія водгукі грамадскасці ў рэспубліканскім друку і многае іншае.

У наш час усеагульнай "прыхватызацыі" для сённяшніх "прагрэсістаў" на першае месца выступілі праблемы фінансавання, спансавання, інвеставання, кошту зямлі, паркавання аўтатранспарту для "дзелавых" людзей і турыстаў і г. д. — усё, што хочаце, акрамя захавання аўтэнтычнай духоўнай каштоўнасці Верхняга горада для кожнага з нас і адпаведнага гэтай задачы вырашэння навукова-метадычных пытанняў рэстаўрацыі. У выніку так званай "рэстаўрацыі" ў будынках XVII—XVIII стст. замест драўлянай падлогі кладзецца лінолеум, збіваюцца фрагменты фрэскавых роспісаў і ляпніны, забываюць зрабіць прафіляваны карніз, не аднаўляюцца першапачатковыя канструкцыі скляпенняў і кроквенных дахаў, што зневажае архітэктуру як мастацтва і рэстаўрацыю як навуку. Акрамя таго неправамерна шырока практыкуецца поўная разборка рэстаўруемых аб'ектаў і ўзвядзенне на іх месцы муляжоў, якія ўжо нельга лічыць помнікамі дойлідства.

Не лепшае стаўленне назіраецца і ў адносінах да археалагічных і гістарычных комплексаў. Вясною гэтага года Саюзам архітэктараў быў аб'яўлены конкурс на праектаванне будынка адміністрацыйна-фінансавай установы ў квартале паміж вуліцамі Герцэна, Гандлёвай і Музычнага завулка пад прыкрыццём канцэпцыі так званай "узнаўляемай забудовы". Справа ў тым, што гэты квартал з'яўляецца ўзорам унікальнай горадабудаўнічай сітуацыі, якая паступова склалася ў межах сярэдневяковага горада і ў асноўных рысах захавалася да нашага часу, што само па сабе унікальна для некалі правінцыяльнага горада, які стаў сучаснай сталіцай Беларусі. Абрыс тэрыторыі квартала, блізкі да трохкутніка, абумоўлены характэрнай для перыяду феадалізму веерападобнай трасіроўкай вуліц, што ішлі ад гандлёвай плошчы ў цэнтры да поймы Свіслачы. Існуючая пераважна двухпавярховая забудова квартала мае традыцыйны для гістарычных гарадоў перыметральны характар. У сувязі з "памерай на валокі", праведзенай яшчэ прыканцы XVI ст., тэрыторыя ўнутры квартала была падзелена на прысядзібныя ўчасткі і ніколі не мела капітальнай забудовы.

Кампазіцыйнай дамінантай квартала з'яўляецца трохпавярховы будынак па Музычным завулку, 5, узведзены ў канцы XVIII — пачатку XIX ст., так званы "Дом масонаў" — помнік архітэктуры рэспубліканскага значэння. Ды і ўвесь квартал як горадабудаўнічае ўтварэнне з'яўляецца помнікам рэспубліканскага значэння. Ён уваходзіць у гісторыка-запаведную зону Верхняга горада і падлягае адбудове паводле агульнага генеральнага плана рэгенерацыі і прыстасавання гістарычнага цэнтра Мінска, які на час правядзення конкурсу афіцыйна не быў зацверджаны. І дагэтуль канчаткова не вызначана канцэпцыя адбудовы азначанага квартала.

Я выступала экспертам гэтага конкурсу, неаднаразова выказвалася аб яго несвоечасовасці, неправамоцнасці і навуковай недасканаласці, але конкурс усё жадбыўся і былі падведзены яго вынікі. Пераможцам як знарок прызнаны праект архітэктара А. Сцяпанава, заснаваны на прынцыпе асабліва агрэсіўнага кантрасту з гістарычным гарадскім асяроддзем. Спраектаваны ім будынак рэзка дэфармуе аб'ёмна-прасторавую структуру квартала, падаўляе яго кампазіцыйную дамінанту, разбурае сілуэт, затое, паглыблены яшчэ на некалькі паверхаў у зямлю, дае найбольшую колькасць "банкаўскіх" плошчаў. Мяне супакойваюць, што гэта ўсяго толькі конкурс, гульня такая, але позіркам Касандры я ўжо бачу новую ахвяру "прагрэсістаў".

Гэта складанае пытанне: чаму мэтанакіраваную палітыку знішчэння помнікаў культуры часцей за ўсё праводзяць рукамі саміх архітэктараў? Чаму большасць з іх не памятае першы запавет архітэктара: "Паважай суседа і папярэдніка!", які чуюць на першай жа лекцыі па сваёй прафесіі? Шырокавядомы запавет урачоў: "Не нашкодзь!". Сэнс запавета сапраўднага дойліда, які стварае для людзей фізічны і эстэтычны камфорт, амаль той жа: "Не пашкодзь гістарычнае асяроддзе, створанае да цябе, не пашкодзь духоўны набытак нацыі і яе генетычную памяць!" І яго неабходна свята выконваць, як і памятаць геніяльнае выказванне М. Гогаля: "Архітэктура — той жа летапіс свету: яна гаворыць тады, калі ўжо змоўкнуць і песні, і паданні... Хай жа яна, хаця б рэшткамі, з'яўляецца сярод нашых гарадоў у такім выглядзе, у якім яна была пры адышоўшым ужо народзе. Каб пры поглядзе на яе прыйшла да нас думка аб мінулым яго жыцці і перанесла б нас у яго побыт, у яго звычкі і лад мыслення, і выклікала б у нас удзячнасць за яго існаванне, што стала прыступкай нашага ўласнага ўзвышэння".

**Тамара ГАБРУСЬ**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Пакуль заканадаўчыя і выканаўчыя ўтварэнні ўзгадняюць стратэгію і тактыку, незаконнае ў краіне робіцца "як выключэнне", а законнае — уразрэз з практыкай. Тэмы для школьных сачыненняў? Звяртайцеся да прэзідэнта (у парадку выключэння).

●

Я быў падумаў: не інакай леў, ды леў пакорна сам паплёўся ў хлеў.

●

Калі што страчваць, дык адразу і цалкам. Вось знайшоў я пальчатку, дык якая карысць мне і таму, хто згубіў? Цюхцяю яшчэ і нагадваць будзе, які ён разявака, а галоўнае — мяне шчаслівым не зрабіў. Страчваць трэба ўсё ці нічога.

●

— Ці ёсць такая партыя? — Якая? — Што прызналася б: "Самі блукаем". — Калі ёсць такая партыя, дык яна нічога не вартая. Лідэраў адно хапае, каб вытыркнуцца: "Ёсць такая..." — А народ? — Што народ — ён не бачыць рэкламны ход.

●

Імя? Яно ж і біяграфія: Федзя, Хведар, Тодар, Тэадор, Тэдзі — вось вам і Федзя!

●

З кнігамі як у ледаход — і крыгі, і сала. Ды гледзячы які год, бывае і без ледаставу.


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:** Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара*, Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 332-204**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма "Дайнова"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7500.
Нумар падпісаны 29.2.1996 г.
Заказ 1084/Г

П 123456789101112
М 123456789101112